

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(113) Лістапад 2003 November Год выд. 11.


# Без свайго, беларускага універсітэта -- аніяк!

/Нар. Воля/



У нашых дзяцей і ўнукаў ідзе новы навучальны год, а суверэнная Беларусь, на здзіўленне усяму цывілізаванаму свету, працягвае заставацца адзінай у Еўропе краінай, дзе сярод дзесяткаў вышэйшых навучальных установ не адшукаць аніводнай нацыянальнай.

І гэта нягледзячы на тое, што ўжо ладны час прагрэсіўная частка грамадства змагаецца за стварэнне ў сталіцы Беларускага нацыянальнага дзяржаўнага універсітэта. У падтрымку гэтай разумнай і патрыятычнай задумы сабрана велізарная колькасць подпісаў грамадзян. У ліку першых паставіла свой подпіс і я. Не шавеляцца толькі ў тых афіцыйных інстанцыях, ад разумлення волі якіх залежыць, быць ці не быць на Беларусі вышэйшай нацыянальнай навучальнай установе. Не чуваць, каб сёння штосьці канкрэтнае рабілася дзеля гэтага. Ды што там, калі ліквідаваны і адзіны Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй - апірышча беларушчыны!

З асабістага вопыту колішняй працы ў апараце Міністэрства асветы БССР добра ведаю, як шмат часу ідзе на падрыхтоўку службовай дакументацыі, яе зацвярджэнне ў высокіх інстанцыях. Сказанае не можа не датычыць і ўсяго, што звязана з нацыянальным дзяржаўным універсітэтам. Вопыту тут - аніякага, ды і даволі ўплывовых апанентаў у гэтай разумнай ідэі - процьма. Але наўрад ці можна дазволіць сабе апусціць крылы, безнадзейна ўздыхаючы: "Ну што тут паробіш". Агульнавядома, што прызначэнне любога тыпу нацыянальнай навучальнай установы - рыхтаваць маладыя пакаленні для творчай, самаадданай працы на карысць эканамічнага і духоўнага росквіту сваёй краіны, адстойвання яе дзяржаўнага суверэнітэту, узбагачэння культурна-моўных традыцый уласнага народа. Ва ўмовах сучаснай Беларусі выхаваць такую моладзь надзвычай важна, бо дэградацыя нацыянальнага патэнцыялу карэннага насельніцтва дайшла да небяспечнай рысы.

Калі кваліфікаваных спецыялістаў для любых сфер дзейнасці можна падрыхтаваць і ў рускамоўных навучальных установах, дык выгадаваць моладзь з высокім нацыянальным гартам - не. Калі б нашыя сённяшнія палітыкі і інтэлігенты ў свой час паканчалі не рускія, а беларускамоўныя вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, то чаго-чаго, а адкрыцця дзяржаўнага нацыянальнага універсітэта мы, напэўна ж, ужо дамагліся б.

Гэта было б знакавае нацыянальнае свята! Згадаем: сёлета спаўняецца роўна дзвесце гадоў ад часу адкрыцця на беларускай этнічнай тэрыторыі Віленскага універсітэта. Гэта была першая ў нас вышэйшая навучальная ўстанова падобнага тыпу. Праўда, панаваў там тады не беларускі, а польска-лацінскі дух, выгадоўвалася моладзь, як зараз у вышэйшых навучальных установах, на чужых для яе нацыянальна-гістарычных і культурна-моўных традыцыях. Толькі зрэдку ў каго са студэнтаў ці выкладчыкаў праяўлялася беларускасць. Але і пры тым нялюбы царскаму рэжыму Віленскі універсітэт закрылі ў 1832 годзе. Апраўдвалі такое актыўным удзелам прафесарска-выкладчыцкага складу і студэнтаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830-1831 гадоў.

Адсутнасць на Беларусі вышэйшай навучальнай установы заўсёды хвалявала адукаваную, не адараваную ад уласных каранёў частку грамадства, асабліва на рубяжы XIX-XX стагоддзяў, калі ў шырокіх колах грамадства мацнела разуменне: без вышэйшай нацыянальнай школы беларускі народ не ў стане вызваліцца ад чужых уплываў і стаць самім сабою.

Здавалася, што шлагбаум на шляху вырашэння гэтай праблемы адкрыў кастрычнік 1917 года ў Расіі. Але ў Петраградзе і Маскве тады ўсё яшчэ дыскутавалася пытанне, ці ўвогуле беларусы самабытны народ - гэтаксама, як у часы царскай палітыкі русіфікацыі.

Але ўсё ж такі ў 1921 годзе ў Беларусі Беларускі дзяржаўны універсітэт пачаў дзейнічаць. На жаль, нацыянальнае жыццё ад гэтага істотна не змянілася, бо і тады, як і зараз, наш універсітэт не забяспечваў Бацькаўшчыну нацыянальна свядомымі маладымі спецыялістамі.

А сёння? Значная частка інтэлігенцыі, падобна, чамусьці змірылася з палітыкай мэтанакіраванай русіфікацыі ў краіне, і пра стварэнне Нацыянальнага універсітэта - маўчок. Хто ж тады - без яе інтэлектуальнага багажу і грамадзянскай актыўнасці - зрушыць архіважную справу з месца?

Цяпер я з-за стану здароўя міжволі адлучана ад любімай працы са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. Але вельмі часта і з радасцю, і з болем у сэрцы згадваю сваю выкладчыцкую дзейнасць канца 80-х - пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. З радасцю таму, што, угледаючыся ў новае пакаленне, я, руская жанчына, паверыла ў духоўныя сілы дарагога мне беларускага народа, яго нацыянальна-культурнае Адраджэнне. З болем таму, што новая хваля гэтага Адраджэння апошнімі гадамі відавочна гасне.

На Беларусі я з 1958 года. Беларуская вёска, у той час з яе традыцыйнай культурай, мела тады яшчэ шмат адметнага ад падобнага тыпу паселішчаў Расіі, што гарантавала вялізнаму пласту беларускага народа этнічную самабытнасць. Урбанізацыя ж апошніх гадоў у спалучэнні з дзяржаўнай антыбеларускай палітыкай здэфарміравала нацыянальны патэнцыял і ў вёсцы. Мяркую, што тытульная нацыя Беларусі яшчэ ніколі не была такой блізкай ад свайго этнічнага вымірання. Дзіўна, але ніяк не рэагуе на сапраўдную беларускую трагедыю супольнасць славянскіх народаў, нібыта гэта не датычыць аднай з яе складовых частак. Фактычна далейшы лёс нашага народа працягвае турбаваць толькі патрыятычна настроеную частку грамадства.

Аднак хочацца верыць, што ў ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння будучыня ёсць. Несумненна, яно прыйдзе ў першую чаргу праз нацыянальную сістэму народнай адукацыі, хаця і раней і зараз ёй упарта працівяцца тыя, каго можна назваць манкуртамі нашага часу.

Калі ўдасца дажыць да чарговай, упэўнена, больш магутнай хвалі адраджэння маёй другой Бацькаўшчыны-Беларусі, буду ў думках непахісна ў асяроддзі тых, хто дзеля выратавання свайго народа не пашкадуе ні таленту, ні паўсядзённай карпатлівай працы.

Ефрасіння АНДРЭЕВА,
доктар педагагічных навук, прафесар.

************************************

## Нацыянальны не дзяржаўны

**Таварыства беларускай мовы адмовілася ад ідэі стварэньня Нацыянальнага ўнівэрсытэту пад крылом дзяржавы. Пра гэта гаворыцца ў рэзалюцыі "Пра сытуацыю вакол Нацыянальнага ліцэю імя Якуба Коласа", прынятай дэлегатамі VIII зьезду ТБМ 12 кастрычніка. На пытаньне аднаго з дэлегатаў "Чаму адмаўляемся ад дзяржаўнага статусу ўнівэрсытэту?" Алег Трусаў адказаў: "Мы разоў дзесяць пісалі Лукашэнку і ягонай адміністрацыі. Адказ адмоўны. Дык навошта адзінаццаты раз пісаць? Пагатоў, гэтую заяву складалі выкладчыкі і бацькі Беларускага ліцэю — ім зь**

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**сярэдзіны лепш відаць, як варта рабіць".**

Уладзімер Колас узьняўся зь месца для тлумачэньня: "За прыватнымі ліцэямі будучыня".

Яшчэ з паўгоду таму А.Трусаў казаў, што Нацыянальны ўнівэрсытэт павінен быць толькі дзяржаўны: мы ўсе падаткаплатнікі, дык, маўляў, мусім патрабаваць, каб нам давалі за нашыя грошы ўсе належныя даброты. Былі нават спадзевы на спрыяньне з боку Адміністрацыі прэзыдэнта ў разьвязаньні гэтае праблемы. Сёньня такіх ілюзіяў ужо няма. "Апошнім часам адбыўся "адкат" улады з ужо абгавораных пазыцыяў, — кажа намесьнік Трусава Сяргей Кручкоў. — Хочацца верыць, што гэта часова. Сёньня да нас прыйшоў з сваімі прапановамі У.Колас: магчыма, мы будзем ствараць пакуль што віртуальны ўнівэрсытэт з дыстанцыйным навучаньнем. Пры гэтым саму навучальную ўстанову можна і не рэгістраваць, абы яна давала нармальную адукацыю". Апошняе, з увагі на дыстанцыйнасьць ды віртуальнасьць такой ВНУ, — у найбольшай небясьпецы. Дый якую вагу будзе мець дыплём незарэгістраванага ўнівэрсытэту? "Каб дыплёмы мелі належны статус, студэнты нейкі час, верагодна, будуць навучацца ў эўрапейскіх ВНУ", — адказвае С.Кручкоў.

Не асабліва спадзяецца ТБМ і на беларусізацыю электронных СМІ. Па русіфікаваным БТ і FM-станцыях Таварыства зьбіраецца ўдарыць недзяржаўным нацыянальным тэлеканалам. Праца над якім, нібыта, ужо на апошняй стадыі. Пра падрабязнасьці С.Кручкоў гаварыць адмовіўся: "Баюся, пачнецца паляваньне на ідэю й тых, хто штурхае гэтую ідэю". Практычна гатовая й камputарная праграма праверкі артаграфіі беларускамоўных тэкстаў, паведаміў сп.Сяргей. Яна будзе існаваць у двух варыянтах — для "тарашкевіцы" і для "наркамаўкі".

Зьезд крыху нагадваў сход пэнсіянэраў: пераважалі "тыя, каму за пяцьдзясят". Аднак паэтка Лера Сом раіць асабліва не перайматца з гэтай нагоды — маўляў, на зьезд выбіралі зважаючы на аўтарытэт і рэгаліі. "Тыя, каму сёньня па дваццаць гадоў, яшчэ пабойваюцца ехаць на такое мерапрыемства. Гадоў праз пяць яны "абатруцца", і тады сытуацыя будзе выглядаць зусім інакш".

Трусава ў кулюарах хвалілі. За ім у ТБМ зьмяніўся спосаб кіраваньня. Старшыні суполак бяруць на сябе пераважна каардынацыйныя функцыі, даючы шараговым тэбээмаўцам усяляк выяўляць ініцыятыву. "Трусаў ніколі не адмаўляе, калі нават на момант прапановы ня дужа верыць у рэальнасьць прапанаванай справы", — гаворыць С.Кручкоў. Відаць, гэтыя якасьці паспрыялі таму, што старшыню з усім ягоным "урадам" пераабралі на наступны тэрмін.

Адам **Воршыч** /Наша Ніва/

# Дэманізацыя

Вадзім **КАЗНАЧЭЕЎ** /Нар. Воля/

Параўноўваючы беларускую апазіцыю з расійскай, Аляксандр Лукашэнка зрабіў выснову, што калі ў Расіі, маўляў, апазіцыя як апазіцыя - дык у нас зусім не тое. "Гэта страшныя людзі, - на абедзве краіны абвясціў Лукашэнка, - ужо шашкі точаць: каго зарэзаць, каго павесіць, каго пасадзіць і г.д.".

Поруч з гэтым Лукашэнка неаднаразова (значыць, невыпадкова) паўтарыў думку пра тое, што "ў нас рускіх гналі з Беларусі": нібы за папярэдняй уладаю пад кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча руськія "сядзелі на чамаданах", паколькі іх адсюль мэтанакіравана выштурхоўвалі - і толькі Лукашэнка асабіста спыніў гэты працэс, як узначаліў дзяржаву.

Следам за сваім "бацькам" на гэтыя матывы заспявалі афіцыёзныя медыя. Так, былы "праваабаронца", які цяпер аж пыл курыць рупіцца падслужваць уладзе, у сваёй нягеглай перадачы насмактаў з пальца тузін жудасных жахаў: што ж гэта будзе, калі раптам апазіцыя скіне Лукашэнку і прыйдзе да ўлады. Ва ўсіх дзяржустановах учыняцца этнічныя чысткі, па вуліцах будуць шпацыраваць негры ў натаўскіх мундзірах, суверэнітэт Беларусі здадуць невядома каму, дый наогул насельніцтва перастраляе адно аднаго з аўтаматаў Калашнікава ("усе будуць ваяваць з усімі").

Крыху раней па БТ паказвалі фільм -пад свежай ды арыгінальнай назваю "Суверэнітэт Беларусі. Імгненні часу", дзе ўвесь перыяд незалежнасці Беларусі да абрання Лукашэнкі на вышэйшую пасаду быў змешчаны пад рубрыку "Час стратаў". "Як падчас Другой сусветнай вайны, краіна апынулася на краі бездані", - сцвярджаюць аўтары: найбольш яскравай характарыстыкай перадлукашэнкаўскага часу яны падавалі пустыя паліцы ў крамах. І толькі "Аляксандру Лукашэнку ўдалася знайсці верны шлях": часы яго кіравання акрэсліваюцца як "Час надзеяў", "Час адзінства і міру".

На самай справе, сацыялагічныя апытанні сведчаць якраз пра адсутнасць надзеяў: да Лукашэнкі, пры ўсіх цяжкасцях, надзеі былі - а ў апошнія гады зніклі, застаюцца хіба што на тое, каб з'ехаць з Беларусі і пашукаць лепшай долі за мяжою. Суверэнітэт Беларусі пачаў ставіць пад пагрозу толькі Лукашэнка, прычым з самага пачатку свайго кіравання - апазіцыя ж ніколі не збіралася аб'ядноўвацца з іншай дзяржаваю. На момант, калі абіраўся Лукашэнка, Шушкевіча ва ўладзе ўжо не было, і Лукашэнка гэта ведае лепш як хто іншы, бо сам адыграў першую ролю ў зняцці Шушкевіча з пасады; а пакуль Шушкевіч быў, ніхто з рускіх не збіраўся з'язджаць з Беларусі з-за нейкага прыгнёту па этнічных прычынах. Пустыя паліцы - гэта прыкмета канца 80-х-пачатку 90-х; у сярэдзіне 94-га яны ўжо пустымі не былі. І гэтак далей.

Але ў дадзеным кантэксце няма мэты абвяргаць відавочную хлусню, якая ўжо дзясяты год - на кожным кроку. Чым-чым, а шчырасцю і сумленнасцю Лукашэнка не вылучаецца. Па яго прыкладзе, афіцыёзная прапаганда звычайна не абцяжарвае сябе пошукам не тое што мінімальнай праўдападобнасці, але і піярнага майстэрства; наадварот, яна заўсёды вызначалася грубасцю і тапорнасцю, на гебельсаўскі капыл. Тое ж самае рабілі і савецкія прапагандысты горшых гатункаў - у прыватнасці, пра іншадумцаў яны пісалі пад падобнымі загалоўкамі: "Плесня", "Накіп"...

Гаворка пра іншае. Апошнім часам вызначылася выразная лінія на, так бы мовіць, "дэманізацыю апазіцыі". Раней зрэдку адносіны да яе раптам рабіліся больш-менш лагоднымі (Лукашэнка нечакана прыгадваў, што апазіцыя - гэта таксама нашы грамадзяне, якія маюць права на ўласныя меркаванні, і да "разумных людзей" з апазіцыі нават варта прыслухоўвацца); непараўнальна часцей маляваўся звыклы "вобраз ворага" - але ж стаўленне было не дэманізаваным, а пагардліва-абразлівым: "гэтыя багданкевічы, шушкевічы, лябедзькі, грыбы..." Ізноў жа, я кажу не пра шляхетную далікатнасць выразаў, якія ўжываюцца "гэтымі лукашэнкамі", - тут якраз усё ясна: цяжкае дзяцінства, недахопы ў выхаванні - што паробіш. А вось чым выклікана з'яўленне "страшылак", якімі людзям паслядоўна даводзіцца думка: калі апазіцыя заменіць ля ўлады Лукашэнку - дык, як пісаў класік, "кепска будзе"? І чаму гэта ўзяліся даводзіць менавіта зараз?

Насамрэч, папракнуць беларускую апазіцыю можна хутчэй залішняй гатоўнасцю прыстасоўваца да чужых правілаў і адсутнасцю волі да барацьбы - але не агрэсіўнасцю ды ваяўнічасцю. Тым больш, што, як кажуць, "чыя б карова мычала". Што ні вярзі пра тое, каго там збіраюцца "зарэзаць і павесіць" жахлівыя апазіцыянеры - але з палітыкаў зніклі пакуль што толькі праціўнікі ўлады, І ў стварэнні "эскадронаў смерці" абвінавачваюць зусім не апазіцыю. Наконт "пасадзіць" - дык палітычныя вязні ў суверэннай Беларусі з'явіліся толькі за Лукашэнкам.

Адным з першых палітвязняў у нашай краіне стаў намеснік старшыні ГА "БНФ "Адраджэнне" Юрый Хадыка, які на сённяшні дзень з'яўляецца ўжо закаранелым рэцыдывістам, паколькі за рэалізацыю свайго канстытуцыйнага права на свабоду мітынгаў і дэманстрацый яму выпадала адседжваць неаднойчы. За тое ж "злачынства" знаходзіўся за кратамі і Анатоль Лябедзька, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, куды ўваходзілі Віктар Ганчар і Юрый Захаранка, якія ў наш "час адзінства і міру" зніклі без вестак. Большую частку "часу стратаў" парламентам краіны кіраваў Станіслаў Шушкевіч, які цяпер ачольвае Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. Аляксандр Патупа, старшыня Саюза прадпрымальнікаў, у гэты самы час меў кнігавыдавецкую фірму і газету, а ў "час надзей" гэта ўсё ляснулася.

Да гэтых людзей я і звярнуўся па каментарыІ.

- У выпадку, калі апазіцыя прыйдзе да ўлады, ці ёсць падставы чакаць нейкіх дзеянняў рэпрэсіўнага характару?

Юрый Хадыка: "Адказнасць панясуць людзі, якія груба парушылі закон. Найперш гэта тычыцца тых, хто вінаваты ў знікненні апанентаў кіроўнага рэжыму. Пэўную адказнасць павінны несці Цэнтрвыбаркам і іншыя выбарчыя камісіі, якія фальсіфікуюць вынікі галасаванняў і, такім чынам, скажаюць волю народа".

Анатоль Лябедзька: "У апазіцыі вельмі мала людзей з патэнцыялам агрэсіі (ва ўсялякім выпадку, яны не складаюць нейкай крытычнай масы). Няма гаворкі не толькі пра абсалютную лухту накшталт "зарэзаць і павесіць" - "вертыкаль", ніжэйшы і сярэдні ўзровень чынавенства ў сваёй аснове застанецца працаваць у той ці іншай якасці, прынамсі на пераходны перыяд. Што тычыцца вышэйшага эшалона, палітычнай часткі, дык тут адбудзецца ратацыя - але нейкая рызыка пераследу ў межах закона ёсць толькі ў тых, хто ўчыняў крымінальныя злачынствы (перш за ўсё ў сілавых структурах): напрыклад, замешаны ў арганізацыі выкрадання людзей".

Станіслаў Шушкевіч: "Такіх памкненняў у апазіцыі я не бачу (я не бяру хуліганаў і маргіналаў, якіх ніхто не дапусціць да ўлады). Сённяшняя апазіцыя - гэта кааліцыя супраць цемрашальства, за цывілізаваныя падыходы. Сілы з самымі рознымі палітычнымі платформамі аб'ядноўваюцца на той мэце, каб грамадства было больш заможным, свабодным, задаволеным жыццём - а не для таго, каб камусьці адпомсціць. Помслівасць праяўляе якраз той чалавек, які лічыць сябе прэзідэнтам - вось ён і спрабуе мераць усіх на свой аршын".

Аляксандр Патупа: "Усё залежыць ад таго, наколькі рэзкім будзе пераход. Калі ён станецца крывавым, наступстваў будзе больш. Увогуле не думаю, што ў вялікім маштабе будзе нешта такое. Безумоўна, сам Лукашэнка ўпэўнены, што яго пакараюць вельмі моцна, і гэта яго дужа палохае".

- Ці былі за час кіравання Лукашэнкі эканамічныя поспехі? Ці палепшыўся дабрабыт?

Юрый Хадыка: "Быў пэўны ўздымчык у 98-м годзе - а пасля зноў усё пайшло на спад. Без рэформаў поспехі немагчымыя. А рэфармавання эканомікі не адбываецца, таму і інвестыцыяў няма".

Антоль Лябедзька: "Праблема пустых паліцаў сышла ў нябыт яшчэ да Лукашэнкі. Памятаю, як Кебіч, яшчэ калі быў прэм'ерам, з трыбуны Вярхоўнага Савета XII склікання выгукваў: "Вы хочаце, каб у нас былі пустыя паліцы, як у Польшчы і Літве?!" Усе з гэтага стану ўжо выйшлі - іншая справа, якім чынам. У нас ёсць магчымасць параўнаць цяперашняе становішча з суседзямі: з краінамі Балтыі, з Польшчай. У Беларусі далёка не такія багацце і разнастайнасць тавараў у крамах. А па цэнах мы прайграем і Літве, і Польшчы па ўсіх накірунках - пачынаючы з будаўнічых матэрыялаў і сканчаючы прадуктамі харчавання. Па заробках - тым больш. Няма магчымасці для паўнавартаснага харчавання, для выбару асартыменту адзення. Гэтага Лукашэнка даць не змог і ніколі не зможа".

Станіслаў Шушкевіч: "Сітуацыя змянілася ў горшы бок. Адбыўся эканамічны абвал. Прыватная частка, якая да 94-га года усталёўвалася і развівалася, цяпер знявечаная. Была сапраўдная мнагавектарнасць - а Лукашэнка зарыентаваўся амаль выключна на Расію. Каб мы ішлі тым шляхам, як прыбалты, - становішча было б нармальным. А так у беларусаў сярэдняя заработная плата значна меншая, чым у прыбалтаў, палякаў, чэхаў".

Аляксандр Патупа: "Менавіта з прыходам Лукашэнкі пачалося выміранне эканомікі. Я кажу не ў літаральным сэнсе: народ не галадае, нейкі мінімум забяспечваецца і забяспечвацца будзе. Але не будзе развіцця, эканоміка і надалей працягне развальвацца. Выжываць людзі будуць, але жыць вельмі дрэнна. У 94-м годзе эканоміка страціла рынкавую фазу. Лукашэнка пайшоў па шляху рэстаўрацыі сацыялістычнага гаспадарання - аднак у нас, з прычыны адсутнасці сыравіны, у антырынкавай эканоміцы значна болей праблем, чым у Савецкім Саюзе. Шкада, што мы згубілі ўсе шанцы - у прыватнасці, на стасункі з Захадам, на інвестыцыі - якія былі, бадай, найлепшымі ў параўнанні з іншымі постсавецкімі рэспублікамі".

- Чым, на Вашу думку, тлумачыцца цяперашняя "дэманізацыя апазіцыі"?

Юрый Хадыка: "У значнай ступені - пераменай пазіцыі Масквы. Крэмль пачынае намацваць кантакты з беларускай апазіцыяй; ёсць падставы сцвярджаць, што ён шукае замену Лукашэнку".

Анатоль Лябедзька: "Сацыялагічнае апытанне, якое правяла лабараторыя Вардамацкага, паказала, што на Лукашэнку спадзяюцца 12,8% грамадзян. І тут жа не спішаш на страх ці на недасведчанасць: Лукашэнку ведаюць усе. Разам з тым, прыкладна 40% не вераць ні ўладзе, ні апазіцыі. Запалохванне апазіцыяй - гэта работа на той сегмент, які нікуды не далучыўся.

Другая прынцыпова новая прычына, якой не было раней: узаемаадносіны з Расіяй пайшлі ўразнос, і Крэмль яўна настроены вырашаць праблему Лукашэнкі. Хаця наўрад ці рэзкія крокі будуць да сакавіка наступнага года, г.зн. да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі.

Нарэшце, узмацняецца незадаволенасць "вертыкалі". Сёння перасільвае страх. Але, калі здолеем стварыць эфект "снежнага кому", усё пасыплецца".

Станіслаў Шушкевіч: "Галоўная прыкмета цывілізаванай дзяржавы - перадача ўлады дэмакратычным шляхам. У цывілізаваным грамадстве ніякай боязі на гэты конт няма.

Тыя, што прыйшлі ў нас да ўлады, і іх памагатыя - абсалютна нецывілізаваныя людзі. Яны не дараслі да таго, каб зразумець, што ўлада павінна пераходзіць з рук у рукі, інакш не можа быць развіцця. Яны баяцца

цывілізаваных падыходаў, і з-за гэтага страху робяць з апазіцыі дэмана. Гэта прыкмета нікчэмнасці цяперашняй улады".

Аляксандр Патупа: "Трэці тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў для Лукашэнкі. Гэтым зараз вызначаецца ўсё. Нейкія сур'ёзныя меры прымаюцца, толькі калі аўтары прапаноў дакажуць, што гэта карысна для трэцяга тэрміну.

З гэтай мэтаю вядзецца прэсінг па ўсіх пазіцыях. Натуральна, адна з галоўных: "Як гэта дрэнна, калі нешта зменіцца". У гэтым жа рэчышчы - масавая перарэгістрацыя грамадскіх арганізацыяй, актыўнае адзяржаўленне прадпрымальніцтва і шмат іншых з'яў. У тым ліку і ціск на палітычную апазіцыю. Рэальная пагроза з яе боку на самай справе перабольшваецца - але ж на ўсялякі выпадак, каб нідзе нічога гэтакага не ўзнікла. Да таго ж, пагроза можа быць пераменнай: сёння нічога асаблівага - а праз некаторы час раптам выйдзе нешта істотнае.

У хуткім часе, увосень, гэтыя працэсы могуць дужа ўзмацніцца. А апазіцыя ва ўсёй галіне трэцяга тэрміну не мае кансалідаванага плана супрацоўніцтва".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Няўжо мы зломкі?

Баліць душа і ўся істота пратэстуе, калі бачыш: мы, беларусы, страчваем сваю мову, сваю гістарычную памяць. Страчваем незалежнасць. Страчваем саміх сябе, бо не адчуваем, у сваёй бальшыні, гэтых непапраўных, глабальных страт, якія крэсляць наўпрост імя "Беларусь". У многім, вельмі многім да ўсяго гэтага спрычыніліся сучасныя беларускія ўлады. Адабралі наш спрадвечны бел-чырвона-белы сцяг, нашу "Пагоню", права быць гаспадарамі сваёй зямлі. Большасць грамадзян даведзена да мяжы жабрацтва, ад іх адбіраецца ўжо тое, што, здавалася, і адабраць немагчыма: права выручыць хаця б на хлеб, прадаўшы пару якіх морквін са свайго гародчыку... Ні на паляпшэнне жыцця простых людзей, ні на нацыянальную культуру ў дзяржавы грошай, канечне ж, няма. Затое яны аднекуль знаходзяцца, каб асыпаць ледзь не залатым дажджом заезджых расійскіх "зорак", каб грашыма беларускіх падаткаплацельшчыкаў падтрымаць пабудову расійскага праваслаўнага храма, стварыць новыя падручнікі, у якіх замоўчваецца праўда аб мінулым і сённяшнім нашага народа, а расійскія самадзержцы і военачальнікі, што гвалцілі і залівалі крывёю нашу Бацькаўшчыну, узводзяцца ў ранг герояў і творцаў беларускай гісторыі. Пры гэтым на афіцыйным узроўні замоўчваюцца адкрыцці сучасных гісторыкаў М.Ермаловіча, Г.Сагановіча, Ул.Арлова, нашых несмяротных апосталаў Праўды і Незалежнасці -- Я.Купалы, У.Караткевіча, В.Быкава, іх паплечнікаў, якія ахвяравалі магутны творчы дар і агонь сэрца, каб запаліць у людскіх душах любоў да маці-Беларусі, адвагу і мужнасць у змаганні за яе светлы лёс. Мне пашчасціла разам з Уладзімірам Коласам - былым кіраўніком ліквідаванага ўладамі Нацыянальнага ліцэя імя Я.Коласа - сустрэцца з незабыўным Васілём Быкавым. Гэта было за дзень да яго канчыны. Кожнае яго слова, уся турбота, непакой былі пра лёс краіны, незалежнасць Беларусі -- той найвялікшы дар, які нельга выпусціць з рук. За тое не будзе нам даравання... Апошнія словы Прарока да нас былі такія: **"ХЛОПЦЫ, ТРЭБА ЗМАГАЦЦА!".**

Дзесяткі тысяч грамадзян прыйшлі праводзіць Народнага пісьменніка ў апошні шлях, засведчыўшы гэтым: ягоны запавет яны прынялі ўсім сэрцам. Але ці ўсе мы так годна і адкрыта адстойваем Праўду, свае права жыць ва ўласным Беларускім доме, гасцінна адкрытым для сяброў з усяго свету? Ці не надта часта адступаем перад гвалтам, нахабствам, здрадай? Няўжо мы такія зломкі, што аддадзім на згубу сваю Беларусь, моўчкі будзем пагаджацца, што яе паглынае больш магутная суседка? Не, на такое я не згодзен. І, веру, не згодныя бацькі і дзяды сённяшніх беларускіх дзетак, якія могуць застацца без будучыні. Дык давайце ж рашуча ўздымем наш голас -- за незалежную Беларусь, за шчасце любай Бацькаўшчыны! Жыве Беларусь!

Уладзімір ПУЗЫНЯ, музычны майстар, заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі.

# Нясвіжскі замак адрэстаўруюць праз 10 гадоў

**У ліпені мінулага года я наведала старажытны Нясвіж, каб паглядзець, як ідзе рэстаўрацыя замка Радзівілаў, распачатая ў 2000 годзе. За час, што мінуў з той пары, вакол замка адбылося шмат падзей. І аптымістычных, і жахлівых. У лістападзе мінулага года Савет міністраў выдаў пастанову "Аб некаторых мерах па рэстаўрацыі палаца-паркавага ансамбля ў Нясвіжы". Быў створаны урадавы штаб, які ўзначаліў віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын. Тады ж быў абвешчаны тэрмін здачы аб'екта: рэстаўрацыя старажытнага замка павіняа быць завершана да 2006 года. А ў ноч на каталіцкія каляды ў цэнтральным будынку палаца здарыўся пажар. Бяда ўзрушыла ўсіх. Дзяржава нібыта ўзяла на сябе адказнасць за жахлівае здарэнне. Улады паабяцалі, што да канца гэтага года наступствы пажару будуць ліквідаваны і планы рэстаўрацыі замка не пацерпяць змяненняў. ...Сёння ў замку ціха. На раскопках па-ранейшаму працуе невялікая купка рабочых. Цяжкая будаўнічая тэхніка ў замку так і не з'явілася. У пакоях палаца яшчэ не выветрыўся пах гару. Зробленыя зімой драўляныя падпоркі ніхто не разабраў. Час нібы спыніўся... Наўрад ці ў наведвальнікаў узнікае адчуванне таго, што тут ідзе рэстаўрацыя. Адзіная новая дэталь — невялічкая экспазіцыя ля ўязной брамы, спецыяльна змайстраваная для турыстаў. Своеасаблівы схематычны аповед аб уладальніках замка і будаўніцтве палаца, дапоўнены здымкамі былых інтэр'ераў, якія навукоўцы адшукалі ў друкаваных крыніцах.**

Я размаўляю з Андрэем МЯЦЕЛЬСКІМ, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, які кіруе археалагічнымі раскопкамі.

**— Андрэй Анатольевіч, высокія чыны заяўлялі, што наступствы пажару будуць ліквідаваны ужо у гэтым годзе. Як выконваюцца гэтыя абяцанні?**

— Самае галоўнае, штр было зроблена — да 1 мая накрылі дах. Але недахопаў, на жаль, хапае.

Карціна "Багіня Леда і шэсць амураў", якая падчас пажару была моцна пашкоджана вадою, яшчэ да сённяшняга дня не знаходзіцца на рэстаўрацыі. Пасля пажару ў княжацкай сталовай тэрмінова ставілі драўляныя падпоры. Але кару з дрэва не знялі, а пад ёю можа завесціся шашаль. Жучок шашаля бязлітасны, распаўсюдзіцца па ўсім палацы і ўсё з'есць, нічога не пакіне. Толькі агонь потым зможа яго знішчыць. Тут жа дастаткова, каб прыйшлі два чалавекі і знялі кару...

**— Я год не была у Нясвіжы, і на першы погляд здаецца, што ў замку Радзівілаў мала што змянілася...**

— Перамены, безумоўна, ёсць. І пра іх трэба гаварыць. Напрыклад, у хуткім часе з Мінска ў Нясвіж перавязуць аднойленую вежу. Праведзена вялікая праца, вежа з'явіцца ў сваім першапачатковым стане такой, якая яна была ў канцы XVI стагоддзя. На мой погляд, самае галоўнае, што было зроблена за мінулы год, — гэта тое, што адмовіліся адначасна цалкам "выцягваць" увесь комплекс. Працэс рэстаўрацыі замка падзялілі на чэргі, і ў мінулы чацвер быў зацверджаны архітэктурны праект першай чаргі: уязной брамы і прылеглай да яе прыбудовы XVII стагоддзя, а таксама дзвюх галерэй XVIII стагоддзя. Зараз ідзе напружаная праца па падрыхтоўцы рабочай дакументацыі, каб ужо вясной распачаць рэстаўрацыйную працу. У гэтым вялікая заслуга рэстаўратараў, якія працуюць пад кіраўніцтвам Сяргея Друшчыца і генпраекціроўшчыка — Мінскграмадзянпраекта.

**— Распачаць ці скончыць? Наколькі я памятаю, 2004 год вызначаўся як год завяршэння рэстаўрацыі першай чаргі палаца...**

— Гэта — не рэальна. Максімум, што можна зрабіць у такі тэрмін, — капітальны рамонт невысокай якасці, а не рэстаўрацыю. Мне здаецца, не трэба звяртаць увагі на тыя тэрміны, якія вызначаюць чыноўнікі. На працягу будучага года можна зрабіць будмантаж першай чаргі комплекса, а далей усё будзе залежаць ад таго, як будуць напаўняцца залы. Хаця ў гэтым комплексе ў большай ступені прадугледжаны гандлёвыя памяшканні для турыстаў. Асабліва складанай ляпніны яны не патрабуюць і таму абыдуцца нядорага. Рэстаўрацыю першай чаргі пры добрым фінансаванні рэальна скончыць толькі к 2007 году. Аднак выдаткі, якія павінны ісці на рэстаўрацыю, даводзіцца выкарыстоўваць на супрацьаварыйныя мерапрыемствы. Сёння пачынаюць "узрывацца" тыя міны, якія заклалі самі Радзівілы. У тыя часы былі іншыя будаўнічыя тэхналогіі і магчымасці. Напрыклад, калі Радзівілы будавалі галерэі, то падмуркі рабілі адпаведныя: невялічкія слупкі. Пасля прыбудавалі тры паверхі, а падмуркі на гэта не разлічаны. Зараз усё трашчыць. Мы апынуліся перад дылемай: разбураць і рабіць новыя: падмуркі ці напампоўваць на старыя цэмент?.. Па загадзе Радзівілаў сцены палаца прывалілі валамі, насыпамі. Ад сутыкнення з вільготнай зямлёй цэгла разбураецца. Трэба адкопваць сцены, сушыць палац. У пэўным сэнсе палац сёння — гэта развалюха. І таму што Радзівілы ўзводзілі яго па тагачасных канонах, і таму, што палац пасля пажару XVIII стагоддзя ніхто капітальна не рамантаваў, нясучым канструкцыям увагі не надаваў. У часы знаходжання ў палацы санаторыя рэкамендавалі нават адпачываючым забараніць танцы, бо была небяспека, што праваліцца падлога. У апошнія гады палац быў у аварыйным стане.

**— Андрэй Анатольевіч, пасля пажару было адзначана, што ў замку будзе працаваць высокакваліфікаваная брыгада будаўнікоў з Салігорска. Дзе яна?**

— Брыгада з салігорскага СУ-105 сапраўды працавала у Нясвіжскім замку. Будаўнікі ставілі падпоры, ачышчалі замак ад слядоў пажарышча. Яны добра працавалі, І нашы праекціроўшчыкі нават не паспявалі за імі. Аднак 1 мая будаўнікі скончылі працу і з'ехалі.

**— Чаму не засталіся?**

— Таму што не бььо архітэктурнага праекта. Акрамя таго, іх не задавальняла аплата.

**— Дарэчы, пра грошы. Год таму Вы скардзіліся на дрэннае фінансаванне. А як зараз?**

— Не, лепш. Фактычна паўгода людзі працавалі задарма. І я, і навуковы кіраўнік, і ўсе астатнія.. Першую аплату сёлета мы атрымалі толькі 20 чэрвеня. І толькі таму, што пайшлі чуткі, што ў радзівілаўскі маёнтак едзе Лукашэнка — паглядзець, як ідзе рэстаўрацыя.

**— Віцэ-прэм'ер Дражын яшчэ ў студзені казаў: "Выдаткі, патрэбныя на рэстаўрацыю палаца, вялікія -- 25 міл'ёнаў долараў. У гэтым годзе мы зможам выдзеліць каля трох мільярдаў беларускіх рублёў.**

— Не ведаю, што абяцаў Дражын. Сума, выдзеленая на рэстаўрацыю на гэты год, — мільярд 200 мільёнаў. Значная сума ідзе праекціроўшчыкам, значную частку пацягнула рэстаўрацыя вежы. І ўсё ж, я мяркую, адпушчанай сумы хопіць да канца года, Але спазьняюцца археалагічныя, гістарычныя даследаванні. Гісторыкі працавалі ў архівах Вільні, Варшавы. Але матэрыялаў не хапае. З другога боку, нас пачынаюць душыць: давай рэстаўрацыю!

**— А хто зараз працуе ў замку?**

— Рабочыя на археалагічных раскопках. У самім жа палацы пакуль цішыня...

**— Але ж лета — самая спрыяльная пара для ўсіх работ...**

— Безумоўна, Але існуюць нестыкоўкі паміж генпраекціроўшчыкам, навуковым хіраўнікам і дырэкцыяй запаведніка. Я не ведаю, чым заўтра заняць рабочых, калі будзе дождж. Можна было б працаваць пад дахам, але няма адпаведнага каштарысу.

**— Такія недахопы — вынік недастатковага фінансавання ці таго, што усё робіцца спехам?**

— З аднаго боку, кіраўніцтва непакоіць, што можам спусціць грошы на дробязь, а на больш значнае не застанецца. Але, з другога боку, і нешта значнае не робіцца. Напрыклад, каб запусціць у двор палаца пад'ёмны кран, трэба ўзмацніць уязны мост, бо ён можа не вытрымаць і разваліцца. Адпаведныя пліты на мост прывезлі яшчэ вясной. Як паклалі іх, так яны і ляжаць. Калі пачнуцца работы, невядома. Кіраўніцтва запаведніка не можа знайсці мостабудаўнікоў, якія б распачалі рамонт. А ўвогуле няма адчування таго, што гэта — дзяржаўная будоўля, ды яшчэ пад прэзідэнцкім патранажам. Уявіце сабе: са снежня 1997 года (першая пастанова аб рэстаўрацыі Нясвіжскага замка з'явілася менавіта тады) і да сённяшняга дня няма праектнай дакументацыі! На маю думку, добрую прапанову выказаў старшыня Дзяржкантролю краіны Анатоль Тозік, калі ў мінулым годзе наведаў замак: стварыць асобную дырэкцыю будаўніцтва, незалежную ад кіраўніцтва запаведніка. Тады б будаўніцтвам займаліся менавіта будаўнікі, а кіраўніцтва запаведніка — турыстамі.

**— І ўсё ж такі калі рэальна ўбачым поўнасцю адрэстаўраваны Нясвіжскі замак?**

— Прыкладна праз 10 гадоў. І то пры належным фінансаванні і добра спланаванай якаснай працы. Можна рабіць і хутчэй. Але ці трэба? Я лічу, што трэба праводзіць навуковыя даследаванні, рабіць якасна, каб захаваць гістарычную дакладнасць. У 1997 годзе я быў у Мальбрэку -- сталіцы крыжакоў. Стаіць там замак XIII стагоддзя. У 1945 годзе ў замкавы касцёл трапіла савецкая авіябомба.. Палякі вырашылі палац рэстаўрыраваць. Спачатку навукоўцы даследавалі касцёл, а пасля паступова, па чарзе, пачалі аднаўляць сцены. Сёння ў замку ёсць памяшканні, якія дзейнічаюць: там праводзяцца выставы, канферэнцыі. Ёсць памяшканні, дзе зараз працуюць рэстаўратары, а ёсць, дзе ўвогуле яшчэ не распачыналі рэстаўрацыю.

**— А мне хочацца вярнуць Вас, Андрэй Анатольевіч, да пастановы Саўміна, у якой сцвярджаецца, што Нясвіжскі палац "ажыве" да 2007 года.**

— ...Калі кіравацца пэўнай датай, то гэта будзе не рэстаўрацыя, а новабудоўля. Аднаўленне такіх гістарычных помнікаў — справа няхуткая і няпростая.

**Гутарыла Марыя ЭЙСМАНТ**, "Народная воля"



# Колас і Купала ў Варшаве?

**Беларусы ў Польшчы лічаць, што ў Варшаве павінен быць узьведзены помнік беларускаму паэту. Гэтая ідэя мае шанцы на посьпех, у прыватнасьці, што яна згадвалася падчас сустрэчы пасла Беларусі ў Варшаве Паўла Латушкі й прэзыдэнта Варшавы Леха Качынскага.**

**У рэалізацыю помыслу ўключыліся беларускія пісьменьнікі ў Польшчы, між іншым, праф. Аляксандар Баршчэўскі, перакладчык Чэслаў Сэнюх, прадстаўнік беларускай нацменшасьці ў Сэйме Ян Чыквін, дырэктар Славянскага Цэнтру ў Варшаве Янка Заброцкі.**

**Ініцыятыва ўзьвядзеньня помніка, паводле слоў праф. Аляксандра Баршчэўскага, нарадзілася ў таварыстве Польшча –Беларусь.**

Мы сабраліся больш чым паўгода назад і паклікалі ініцыятыўную групу, якая мела заняцца справай узьвядзення помніка аднаму альбо двум беларускім паэтам. Гаварылася аб такіх постацях як Янка Купала, Якуб Коляс – альбо яны разам альбо адзін зь ніх.

**Як вы думаеце – леш паставіць помнік аднаму, ці двум беларускім паэтам?**

Мы прыхіліліся да канцэпцыі, каб выступіць з ідэяй помніка двум беларускім паэтам і тут спасаліся, між іншым, на тое, што ў Вэймары –у Гэрманіі- ёсьць помнік двум знакамітым нямецкім паэтам –Гайнэ й Шылеру. Кропку над „і" паставіў Чэсляў Сэнюх, знакаміты перакладчык „Новай Зямлі" Я.Коласа на польскую мову. Ён пераканаў нас, каб гэта быў помнік двум паэтам, бо, і Янка Купала, і Якуб Колас адыгралі аднолькава значную ролю ў разьвіцьці беларускай літаратуры, хаця ў некаторым сэнсе можна гаварыць аб перавазе Янкі Купалы над Якубам Коласам. Янка Купала ня быў ніколі партыйным чыноўнікам, ён быў больш незалежніцкі чым Якуб Колас. У творчасьці Коласа ёсьць элемэнты культу Сталіна. Трэба дадаць, што ў Коласа ёсьць творы, па сутнасьці, антыпольскія. Маю на думцы раман „Дрыгва", з антыпілсудчыкаўскімі элемэнтамі.

**Як думаеце, ці гэты, якраз, факт, ня будзе мець значэньня для польскага боку?**

Між іншым былі выкарыстаныя й такія аргументы, што калі некалькі гадоў таму назад узьнікла ініцыятыўная група пабудовы помніка ўкраінскаму паэту Шаўчэнку, тады таксама некаторыя палітыкі й дзеячы моцна падкрэслівалі тое, што ў Шаўчэнкі – і ў літаратуры, і ў жыцьці, было вельмі многа антыпольскіх элемэнтаў. І ўсё ж такі пераважыла думка, што гэта быў вялікі славянскі паэт і помнік Шаучэнку ўжо ў Варшаве ўзьведзены. Бяручы пад увагу складаныя палітычныя і гістарычныя лёсы нашых краінаў, нашых народаў – трэба прабачыць нашым пісьменнікам тое, што яны далучаліся ў тыя нядобрыя часы да такой, ці іншай тэндэнцыі, і перш за ўсё памятаць вялікую ролю, якую яны адыгрывалі ў яднанні польскага й беларускага народаў.

У выпадку Янкі Купалы трэба падкрэсьліць тое, што ён быў каталікам, карыстаўся даволі часта й добра польскай мовай, і наогул –першы пэрыяд ягонай творчасьці гэта была творчасьць на польскай мове. Якуб Колас дажыў да новых часоў, да паваеннага пэрыяду, і ў апошніх сваіх вершах зьвяртаўся да польскага народу зь вялікай сымпатыяй.

**Хіба трэба будзе патлумачыць варшвянам – хто такія Якуб Колас і Янка Купала.**

Напэўна.

**Як вы думаеце – якое месца ў Варшаве было б найлепшым для помніка?**

Ніхто ня будзе разбураць помніка каралю на Замкавай Плошчы, ці на Банкавай Плошчы – Славацкаму, каб паставіць там Коласа ці Купалу. Трэба шукаць месца ў другіх раёнах. Думаю, што такіх месцаў знойдзецца шмат. Зразумела, што гэта ня можа быць месца захалуснае, дзе ніхто не заглядае й дзе ніхто не даведаецца, хто такія Якуб Колас і Янка Купала. Думаю, што такі помнік трэба пабудаваць там, дзе ёсьць навуковыя альбо літаратурныя ўстановы, і дзе прыходзяць людзі адукаваныя, больш менш сарыентаваныя ў польска-беларускіх адносінах.

**Сёньня працы над помнікам знаходзяцца на этапе праекту. Як доўга трэба будзе чакаць узьвядзення помніка?**

Мы вырашылі, што будзем пісаць цэлы рад зваротаў да розных установаў – да прэзыдэнта Варшавы, Міністэрства Культуры, Саюзу Пісьменьнікаў ды нават да прэзыдэнта Польшчы, і прасіць іх прыняць, як мага, хутчэй адпаведнае рашэньне. Ёсьць і другая праблема – фінансавая. Бо хаця помнік будзе каштаваць нямнога – 30-40 тысячаў даляраў – то гэтых грошай і так няма.

Я хацеў бы спадзявацца. што гэта рэальная ініцыятыва. Зразумела, што рашэньне будзе залежаць ад прэзыдэнта Варшавы, ад Варшаўскай Рады Дэпутатаў. Такія размовы мы ўжо праводзілі на розных узроўнях – і з маршалам Сэнату Польшчы Лёнгінам Пастусякам, намеснікам міністра культуры Польшчы Скомпскім, і з прэзыдэнтам Варшавы Лехам Качынскім. З пункту гледжаньня згаданых афіцыйных асобаў –няма супрацьпаказанняў дзеля таго, каб помнік выбітнаму беларускаму пісьменьніку паўстаў у Варшаве. Зараз для нас вельмі важна апрацаваць усе тэхнічныя, працэдурныя моманты дзеля таго, каб афіцыйна зьвярнуцца з гэтай ініцыятывай…

**Калі гаварыць пра фінансаваньне помніка: хто ўзяў бы на сябе гэты абавязак?**

90 % фінансавых пытаньняў зьвязаных з паўстаньнем помніка Адаму Міцкевічу ў Менску было сфінансавана беларускай дзяржавай, гарадскімі уладамі Мінска.

************************************************************

# Шаноўныя Урады краін свету!

Мы, былыя навучэнцы Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа вымушаныя прасіць вашай дапамогі ў сувязі з немагчымасцю атрымання якаснай адукацыі на роднай мове на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Апошняй установай, якая давала такую магчымасць, быў НДГЛ імя Я.Коласа, які пастановай Савета міністраў №850 ад 25.06.2003г. быў ліквідаваны.

Ліцэй — першая і адзіная несавецкая ўстанова, дзе на практыцы прымяняліся дэмакратычныя навучальныя праграмы новага тыпу. Ліцэйскія выкладчыкі распрацавалі ўласныя методыкі, якія паводле многіх крытэраў пераўзыходзяць агульнашкольныя. Пра іх эфектыўнасць сведчыць амаль 100% паступальнасць у ВНУ, вынікі Рэспубліканскіх і Міжнародных алімпіяд.

Па ліквідацыі Ліцэя мы фактычна апынуліся на вуліцы — без магчымасці годна атрымаць сярэднюю адукацыю. Улады не даюць нам гарантыі, што замест Ліцэя будзе створана адпаведная беларускамоўная навучальная ўстанова.

Тэхнічна мы не можам працягваць навучанне, бо атрымлівалі адукацыю на роднай нацыянальнай мове, вывучалі на высокім узроўні многія замежныя мовы. Навучальныя ўстановы Беларусі, якія існуюць сёння, не здольныя даць нам магчымасці закончыць адукацыю ліцэйскага ўзроўню па-беларуску.

Як высветлілася, прэтэнзіяў з боку ўладаў да навучальнага працэсу не было. Відавочна, што матывы ліквідацыі Ліцэя — палітычныя, скіраваныя на вынішчэнне дэмакратычных асяродкаў, нацыянальнай мовы, памяці, культуры. Гэта адлюстроўвае палітыку дзяржавы ў цэлым.

Амаль месяц мы звярталіся ўва ўсе магчымыя дзяржаўныя ўстановы, нават у Адміністрацыю Прэзідэнта. Не атрымаўшы рады ад беларускага кіраўніцтва, мы вырашыліся на тое, каб прасіць дапамогі за мяжой.

Просім:

1) Звярнуцца да Ураду Рэспублікі Беларусь з просьбай патлумачыць матывы і падставы ліквідацыі Ліцэя, а таксама патлумачыць далейшы лёс педагагічнага калектыву і нас, як навучэнцаў.

2) Даць нам магчымасць у адпаведнасці з канстытуцыйнымі правамі, правамі дзіцяці скончыць адукацыю на адпаведным узроўні.

Былыя навучэнцы Нацыянальнага
дзяржаўнага гуманітаранага ліцэя імя Якуба Коласа

---

# Dear governments of the countries of the world!

We, the former students of the Jakub Kolas National State Lyceum for Humanities are forced to ask for your help which is caused by the impossibility to get education of good quality in our native language on the territory of the Republic of Belarus. The Jakub Kolas National State Lyceum for Humanities was the last remaining establishment that gave such a possibility, and it was liquidated by the resolution of the Ministerial Council #850 dated 25.06.2003.

The Lyceum was the first and the only non-Soviet stablishment where they put into practice democratic educational curricula of new type. the Lyceum teachers worked out their oun methods of teaching which were in many ways much superior than those used at ordinary schools. The effective impact of these curricula is proved by the number of students that enter Higher Educational Establishments after finishing the Lyceum ( almost 100% ), by the results of the Republic and World olympiads.

In fact, in the result of the liquidation of our Lyceum we found ourselves in the street having no possibility to get quality secondary education. Our Government gives us no guarantee that they will set up a new educational establishment with Belarusian language of instraction instead of the Lyceum.

Actually we cannot continue our education as we used to be educated in our native national language, used to study many foreign languages on a very high level. The existing educational establishments we have in Belarus are not able to give us possibility to finish Lyceum level education in Belarusian language.

As it was cleared up the Government layed no claims to the educational process. So, it is evident that the main reason to liquidate the Lyceum lays in politics. Their aim is to destroy democratic circles, to destroy national language, memory, culture. This reveals the State policy in general.

During almost the whole month we were trying to appeal to all possible State Organizations, we even appealed to the President Administration. Having no answer from the Belarusian Government we decided to turn to foreign countries for help.

We ask:

1) To appeal to the Government of the Republic of Belarus in order they explain the reasons of the Lyceum liquidation and what is going to happen to the teachers and to us, students.

2) To give us possibility to finish our education on the necessary level in accordance to our constitution rights, our children rights.

The former students of the Jakub Kolas
National State Lyceum for Humanities

---

# Sehr geehrte Regierungen aller dander!

Wir sind ehemalige Schüler des Nationalen Staatlichen Humanitären Lyzeums von Jakub Kolas und sind gezwungen, Sie um Hilfe zu bitten im Zusammenhang, dass wir keine Möglichkeit haben, eine hochqualitative Ausbildung in unserer Muttersprache auf dem Territorium der Republik Belarus zu bekommen. Die letzte Anstalt, wo wir diese Möglichkeit bekommen haben könnten, war das Nationale Staatlichen Humanitären Lyzeums von Jakub Kolas, das laut Verordnung vom Ministerrat (№ 850 von 25.06.2003) liquidiert worden war.

Dieses Lyzeum ist die erste und die einzige nicht sowjetische Anstalt, wo neue demokratische Lehrprogramme praktisch eingesetzt worden sind. Die Lehrer im Lyzeum haben ihre eigenen Methodiken ausgearbeitet, die nach vielen Merkmalen den allgemeinschulischen überlegen sind. Von ihrer Wirksamkeit zeugt die Tatsache, dass fast 100% Schüler unseres Lyzeums an den Hochschulen immatrikuliert werden und in verschiedenen Republikanischen und Internationalen Olympiaden die ersten Plätze einnehmen.

Nachdem das Lyzeum liquidiert worden ist, bleiben wir tatsächlich in der Strasse, denn wir haben keine Möglichkiet, eine würdige Ausbildung zu bekommen. Unsere Regierung garantiert uns nicht, dass statt unseres Lyzeums eine entsorechende belarussischsprachige Lehranstalt geschaffen wird.

Technisch können wir das Lernen nicht fortsetzen, denn wir haben die Ausbildung in unserer Muttersprache bekommen, haben auf hohem Niveau viele Fremdsprachen gelernt. Die Lehranstalten unserer Republik, die heute existieren, können uns keine Möglichkeit geben, das Abitur auf dem Niveau unseres Lyzeums in belarussischer Sprache zu machen.

Es wurde klar, dass es keine Ansprüche seitens der Regierung dem Lernprozess gegenüber gibt. Es ist auch klar, dass die Motive der Liquidation des Lyzeums politisch sind: sie sind gegen demokratische kreise, gegen nationale Sprache, Bewusstsien und Kultur gerichtet. Das wiederspiegelt im Grossen und Ganzen die Politik des Staates.

Fast den ganzen Monat lang haben wir uns an alle möglichen staatlichen Anstalten gewandt, sogar an die Präsidentenverwaltung. Da wir keine Ergebnisse bekommen haben, beschlossen wir im Ausland um Hilfe zu bitten.

Wir bitten Sie:

1) sich an die Regierung der Republik Belarus zu wenden, um sie zu bitten, Motive und Gründe der Liquidation des Lyzeums, sowie das Schicksal des pädagogischen Kollektivs und der Schüler zu erklären.

2) uns die Möglichkeit zu geben, den Verfassungs — und Kinderrechten entsprechend das Abitur auf einem entsrechenden Niveau zu machen.

Ehemalige Schüler des Nationalen Staatlichen
Humanitären Lyzeums von Jakub Kolas

************************************************************

# Этнацыд у Беларусі

*Захады Лукашэнкі адносна гуманітарнага ліцэю і ўсяго беларускага ёсьць сапраўдным этнацыдам. Аднак дыктатар не чакаў, што памяркоўныя і пасіўныя беларусы прадэманструюць тут сваю неабыкавасьць і салідарнасьць з гэтай установай, а самі вучні і настаўнікі — непакорнасьць. Так піша ў артыкуле "Маленькае паўстаньне супраць вялікай зачысткі" маскоўскі карэспандэнт нямецкай "Frankfurter Allgemeine" Маркус Вэнэр.*

Некалькі тыдняў пасьля закрыцьця ліцэю настаўнікі праводзілі занятки на вуліцы. Многія ліцэісты, якія прыходзілі на гэтыя ўрокі, не ўяўлялі сабе, як будуць займацца ў звычайнай школе. У ліцэі былі непаўторная прафэсура, атмасфэра сяброўства. "У іншых школах наўрад ці так вывучаюць Байрана", — казалі дзеці. Яны не разумеюць, чаму прэзыдэнт вырашыў зачыніць іхную школу.

Як піша нямецкае выданьне, сёлета Лукашэнка ўжо зачыніў 150 беларускіх школаў. Аднак палітыка

этнацыду працягваецца. Беларуская мова, якая паводле некаторых лінгвістаў ёсьць расейскім дыялектам, усё радзей і радзей гучыць па нацыянальным тэлебачаньні. Сам Лукашэнка, які размаўляе з моцным беларускім акцэнтам, не шануе гэтай афіцыйнай дзяржаўнай мовы.

Прычына, зь якой Лукашэнка зачыніў Беларускі гуманітарны ліцэй, зьвязаная аднак ня толькі з моўнай палітыкай. Усе складанасьці пачаліся пасьля таго, як ягоны кіраўнік Уладзімер Колас быццам бы далучыўся да "вялікай" палітыкі і стаў адным з арганізатараў Зьезду беларускай інтэлігенцыі.

Паводле вучняў, бацькоў ды самога Коласа, у ліцэі палітыка не адыгрывала ніякай ролі. Проста там не паўтаралі ўсёй той хлусьні, якая адкрыта гучала вакол. Лукашэнка ж убачыў у ліцэі "гняздо апазыцыі".

Дарэчы, за 9 гадоў прэзыдэнцтва "гэтаму дэмагогу з надзвычайным уладным інстынктам" так і не ўдалося пахаваць апазыцыю, — піша "Frankfurter Allgemeine". Цяпер Лукашэнка імкнецца захаваць уладу і надалей, пасьля 2006 году — і распачатая ім " вялікая чыстка" служыць выключна гэтай мэце. У краіне забароненыя многія апазыцыйныя выданьні дый шматлікія няўрадавыя арганізацыі.

У найлепшых савецкіх традыцыях у Беларусі набірае моц ідэалягічная кампанія. Адпаведная навучальная дысцыпліна ўведзеная ў беларускіх унівэрсытэтах. На ўсіх прадпрыемствах уведзеныя пасады ідэолягаў. На час уборкі ўраджаю менскае раённае кіраўніцтва стварыла 388 прапагандысцкіх брыгадаў, з чыёй дапамогай сяляне ў часе абедзеннага перапынку даведваліся пра палітычныя падзеі ў краіне. Найлепшым працаўнікам дазволяць узьняць сьцяг над саўгаснай адміністрацыяй, а ўдарнікаў ідэалягічнага фронту — узнагародзяць.

Чым дакладна ёсьць дзяржаўная беларуская ідэалёгія, пакуль ня ясна. У любым выпадку, яна мусіць палепшыць агульную дысцыпліну ў грамадзтве ды ўзьняць папулярнасьць прэзыдэнта ў масах. Паводле некаторых сацыялягічных апытаньняў, гэтая папулярнасьць упала цяпер да 20%.

Як піша "Frankfurter Allgemeine", нягледзячы ні на што, Лукашэнку пакуль ніяк не ўдаецца татальна ідэалягізаваць краіну. Праз шматлікія невялікія шчыліны ў гэтую ізаляваную дзяржаву, якую адзін менскі таксыст назваў "рэзэрвацыяй", дзьмуць ветры з захаду і з поўначы — Польшчы і Літвы, а таксама з усходу — Расеі.

******************************************************

# „У рэзэрваце Лукашэнкі"

„У рэзэрваце Лукашэнкі" – гэтак называецца публікацыя летувіскага паэта й крытыка Томаса Вэнцлёвы, які з 1977 году жыў у ЗША, а цяпер – у Кракаве. Публікацыя зьмешчаная на старонках цэнтрысцкай уплывовай „Gazety Wyborczej".

Па словах Вэнцлёвы, Беларусь гэта найболыш экзатычная, па-за Альбаніяй, краіна ў Эўропе: рэзэрват саветызму, каралеўства Лукашэнкі, зона Чарнобыля. Беларускія вёскі выглядаюць сумна й па-савецку. Праўда, напісы ўсюды беларускія.

Фэрмэраў у Беларусі мала. Лукашэнка ўсюды пакінуў калгасныя парадкі, а фэрмэраў і ўсякіх прыватных прадпрымальнікаў зьнішчае пры дапамозе падаткаў і розных абмежаваньняў.

Пры ўезьдзе ў Менск кідаецца ў вочы плод новае палітыкі кіраўніка Беларусі ў дачыненьні да рэлігіі – сьвежа пазалочаныя купалы агромністай царквы. Надалей на сваім месцы знаходзяцца помнік Леніну й бюст Дзяржынскага. Засталася ня толькі сядзіба КДБ, але й сам Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі таксама. Як у савецкі час, няма ні сьмецьця, ні жабракоў. Праўда, галоўная вуліца Леніна была перайменаваная на Францішка Скарыны – першага беларускага друкара. Ёсьць таксама й Пляц Незалежнасьці, але менавіта на ім, насупраць сядзібы ўраду стаіць чорны Ленін, які – як гавораць мясцовыя – назірае, колькі часу захавaецца гэтая незалежнасьць.

Кожны народ мае сымбалі сваіх пакутаў. У Беларусі гэта Курапаты, дзе загінула вялікая колькасьць беларускае інтэлігенцыі – заўважае Томас Вэнцлёва.

У 1920 гадох была праведзеная беларусізацыя краіны: беларуская мова была прызнаная дзяржаўнай, узьніклі беларускія навуковыя інстытуты, паявілася беларускае мастацтва. Тады ў Менск вярнуліся многія эмігранты, гатовыя ўдзельнічаць у нацыянальным адраджэньні. У 1930-х гадох беларусізацыя была гвалтоўна спыненая, і амаль усе ейныя ўдзельнікі зьліквідаваныя – рэасстраляныя ў Курапацкім лесе.

Сёньня многія прадстаўнікі беларускае інтэлігенцыі зьяўляюцца прыхільнікамі арганічнае працы, значыць, выхаваньня сучаснай эліты й апрацаваньня праектаў, разьлічаных на будучыню. У іх ацэнцы, цяпер няма шанцаў на зьмену рэжыму ў Беларусі. Няма таксама сэнсу чакаць на інтэграцыю з Расеяй, таму што Расеі непатрэбаная інтэграцыя, толькі дэградацыя Беларусі. Пры дапамозе таннага газу Расея стараецца ўзалежніць Беларусь ад сябе. Насуперак чаканьням многіх, Расея не прычыніцца да дэмакртаызацыі Беларусі, а беларуская апазыцыя, на жаль, слабая й падзеленая.

Беларускі рэжым парадаксальны – піша Томас Вэнцлёва. Беларусы сьмяюцца, што незалежнасьць атрымалі лягчэй за іншых і найцяжэй зь ёю разьвітваюцца. Інтэграцыйныя перамовы з Расеяй працягваюцца ўжо 6 гадоў, а інтэграцыі не відаць. У прыватызацыі ўдзельнічае расейскі капітал, але Лукашэнка стрымлівае ягонае пранікненьне ў краіну.

Томас Вэнцлёва, наведваючы Беларусь, перагледзеў свой погляд на беларускую мову. Думаў, што сустрэў не лёс старапрускае мовы, але аказалася, што ў Менску – праўда, расейскамоўным горадзе – усё, што цікавае, адбываецца па-беларуску, і зусім немалая колькасьць інтэлігентаў карыстаецца роднай беларускай мовай, да якой прызнаецца 80% адсоткаў грамадзянаў Беларусі. Так што пра беларускую мову нельга сказаць, што яна мёртвая. Парадаксальна, але гэта менавіта Лукашэнка паўплываў на ўмацненьне беларускае мовы, таму што сталася яна сымбалем апазыцыі й грамадзянскае сьвядомасьці - ацэньвае Томас Вэнцлёва. Разам з ростам нацыянальнае сьвядомасьці расьце й значэньне беларускае мовы.

*******************************************

# Беларусь-Расея: усходнеэўрапейская інтэграцыя

Цэнтар Усходніх Дасьледаваньняў у Варшаве падрыхтаваў аналіз на тэму інтэграцыі Беларусі й Расеі.

Ялянта Сьмялоўская: Ці гэта дрэнна, што паралельна з заходнеэўрапейскай інтэграцыяй адбываецца ўсходнеэўрапейскае яднаньне? Адказаць на гэтае пытаньне мы папрасілі аўтара гэтай працы Рафала Садоўскага.

Рафал Садоўскі: Я б не сказаў, што гэта дрэнна, але хачу зьвярнуць увагу на тое, што працэс беларуска-расейскай інтэграцыі мае зусім іншы характар, чым той, які адбываецца ў рамках Эўрапейскага Зьвязу. Зьвяртае ўвагу тое, што асноўнымі стымуламі інтэграцыі Расеі й Беларусі зьяўляюцца палітычныя амбіцыі галоўных актораў гэтых краін – прэзыдэнтаў А. Лукашэнкі й У. Пуціна. Грамадзкі аспэкт, які адыгрывае асноўную ролю ў Эўразьвязе, у гэтым выпадку не бярэцца пад увагу.

Я.С.: З падрыхтаванага Вамі аналізу вынікае, што Лукашэнка імкнецца ўтрымаць сваю моцную пазыцыю ня толькі ў Беларусі, але таксама хоча мець уплыў на расейскі бок. Ствараючы ўстановы Саюзнае Дзяржавы, прэзыдэнт Беларусі хоча мець уплыў на палітыку й на справы ў Расеі. Якім чынам?

Р.С.: Трэба памятаць пра тое, што Беларусь у вялікай ступені залежыць ад Расеі, у першай чарзе ад энэрганосьбітаў і танных расейскіх крэдытаў. Гэтай залежнасьці цягам апошніх 10 гадоў не ўдалося парваць. Не ўдалося таксама збалянсаваць замежнае палітыкі, якая ўвесь час утрымлівае курс толькі на Расею.

Я.С.: Не таямніца, што Расея хоча ўтрымаць Беларусь у сваёй зоне ўплываў.

Р.С.: Трэба памятаць, што Беларусь адыгрывае важную ролю ў абаронччай сыстэме Расеі. На тэрыторыі Беларусі знаходзяцца расейскія радыёлякацыйныя базы ў Баранавічах.

Урэшце частка гандлёвага абмену паміж Расеяй і Заходняй Эўропай адбываецца праз тэрыторыю Беларусі. Кантроль над гэтымі шляхамі таксама мае значэньне для Расеі.

Я.С.: Кажам, што да інтэграцыі імкнуцца перш за ўсё абодва прэзыдэнты. Але ж грамадзтва Беларусі таксама хоча гэтай інтэграцыі. У савакіку Незалежны Інстытут Грамадзка-Эканамічных Дасьледаваньняў правёў апытаньне, у якім за інтэграцыю выказалася 50%, а супраць было 16% беларусаў.

Р.С.: Так, грамадзяне Беларусі падтрымліваюць інтэграцыю. Аднак інакш, чым у Польшчы, дзе адбываліся шырокія публічныя дэбаты на тэму інтэграцыі Польшчы з Эўразьвязам, у Беларусі такіх дэбатаў няма. Грамадзтва ня мае магчымасьці выказацца па гэтаму пытаньню. Таму, паводле мяне, вынікі апытаньня ў нейкай ступені зьвязаныя з сэнтымэнтальнасьцю па супольнай мінуўшчыне ў магутным Савецкім Саюзе. З другога боку, значная частка беларусаў падртымлівае інтэграцыю Расеі пры адначасовым захаваньні сувэрэнітэту Беларусі. Гэта таксама важны паказьнік, які сьведчыць аб прывязанасьці беларусаў да сваёй незалежнай краіны.

Я.С.: Чаму Польшчы ды іншым заходнім краінам залежыць на тым, каб Беларусь не пашырала свае залежнасьці ад Расеі? Якія сапраўдныя матывы такой пазыцыі?

Р.С.: Мне здаецца, што з пэрспэктывы Польшчы й дзяржаваў Эўразьвязу добра было б утрымаць незалежнасьць Беларусі, каб гэтая дзяржава стала месцам супрацы паміж краінамі пашыранага Эўразьвязу й Расеі, а ня месцам канфрантацыі. Добра было б, калі б Беларусь вяла палітыку ня толькі прарасейскую, але зьвярнулася хоць крыху ў бок Эўропы.

Я.С.:Аднак праблема ў тым, што гэтыя эўрапейскія дзяржавы выкарыстоўваюць палітычны астракізм у дачыненьні да Беларусі.

Р.С.: Ёсьць пэўныя справы, якіх эўрапейскія краіны ня могуць адобрываць, напрыклад, рэжым улады. Але Эўразьвяз і польскія ўлады шукаюць такой формулы супрацы зь Беларусяй, якая дазволіла б пазьбегнуць ізаляцыі Беларусі на міжнароднай арэне з аднаго боку, а з другога - прымушала б тамтэйшыя ўлады ўводзіць зьмены ў сваёй палітыцы. У асноўным гаворка йдзе пра пашану правоў чалавека й дэмакратычныя стандарты.

Я.С.: Але ці такія формулы можна выпрацаваць без удзелу другога боку, канкрэтна кажучы, без удзелу беларускіх уладаў?

Р.С.: Цяпер дыялёг зь Беларусяй адбываецца на ніжэйшым узроўні – мясцовай улады й міністэрстваў. Мэтай зьяўляецца ўнутраная эвалюцыя сыстэмы ў Беларусі. Важна, каб урадавыя эліты ў Беларусі усьведамлялі карысьці, вынікаючыя з супрацы з Захадам.

Я.С.: Гэта факт, што беларускі прэзыдэнт кантралюе замежныя кантакты сваіх міністраў, вырашае аб замежных паездках дэпутатаў. Відаць ужо крокі ў напрамку кантролю ніжэйшага ўзроўню ўлады. Існуе рэальная пагроза, што прадстаўнікі дзяржаўнай адміністрацыі ў рэгіёне таксама атрымаюць забарону кантактаў з Захадам ад прэзыдэнта, якога гэты Захад лекцаменціць. Якім чынам выйсьці з такой сытуацыі?

Р.С.: Я згодны зь меркаваньнем, што цяпер Эўрапейскі Зьвяз ня мае інструмантаў уплыву, націску на прэзыдэнта Лукашэнку. Але, нягледзячы на ўсё, відаць, што беларускія ўлады стараюцца не парываць сувязяў з Эўропай. І важна, каб беларуская намэнклятура, а перш за ўсё беларускае грамадзтва мела сьвядомасьць, што дзьверы ў Эўропу для іх адчыненыя. Я баюся, што заходнія краіны ня ў стане нічога больш зрабіць.

Я.С.: З рапарту, якога Вы зьяўляецеся аўтарам, вынікае, што інтэграцыя з Расеяй пашкодзіць Беларусі.

Р.С.: Лепш сказаць, што не прычыніцца да паляпшэньня сытуацыі. Найважнейшыя справы, з пазыцыі Польшчы й Эўрапейскага Зьвязу ў дачыненьні да Беларусі, гэта правы чалавека. Гэтая справа не зьяўляецца прадметам перамоваў Расеі й Беларусі. Расейцаў гэта зусім не цікавіць.

Інтэграцыя, несумненна, не паспрыяе таму, што ў Беларусі пачнуць прытрымлівацца дэмакратычных стандартаў.

А калі гаварыць пра эканамічны аспэкт, то я баюся, што інтэграцыя таксама ня стане стымулам для ўладаў для эканамічнае рэформы краіны.

Я.С.: Якія ёсьць рэальныя пэрспэктывы на інтэграцыю Расеі й Беларусі?

Р.С.: Цяпер зьяўляемся сьведкамі крызысу гэтай інтэграцыі. Мне здаецца, што цягам бліжэйшых 2-3 гадоў не адбудзецца прысьпяшэньне ў справе стварэньня нейкіх установаў Саюзнае Дзяржавы, ці прыняцьця Канстытуцыі Саюзнае Дзяржавы.

У сваю чаргу адміністрацыя прэзыдэнта Беларусі ды сам прэзыдэнт пачынаюць заўважаць, што гэтая інтэграцыя не адпавядае палітычным плянам, таму што яна яшчэ больш вядзе да выцясьненьня Беларусі зь міжнароднай арэны.

Пытаньне інтэграцыі зьяўляецца элемэнтам тарганьня паміж Лукашэнкам і Пуцінам. Лукашэнка хоча, каб Крэмль згадзіўся на прадаўжэньне ягонага тэрміну паўнамоцтваў. Але расейцы цяпер рашуча супраціўляюцца. Усё больш расейскіх камэнтатараў падкрэсьлівае, што Лукашэнка становіцца пагрозай для расейскіх інтарэсаў у гэтай частцы Эўропы. Пакуль што, відаць непрыхільнасьць да ідэі прадаўжэньня тэрміну паўнамоцтваў Лукашэнкі.

Тым часам прэзыдэнт Беларусі ў абарону сваёй палітычнай пазыцыі выбраў шлях абароны максімальнай незалежнасьці Беларусі.

Я.С.: І таму паяўляюцца камэнтары, што Лукашэнка стаў абаронцам беларускіх інтарэсаў перад расейцамі.

Р.С.: Аляксандар Лукашэнка трактуе незалежнасьць Беларусі вельмі інструмэнтальна. Пакуль яна дазволіць яму захаваць сваю палітычную пазыцыю, будзе абараняць гэтую незалежнасьць, але калі б толькі сытуацыя радыкальна зьмянілася, у яго не было б праблемаў, каб раптоўна зьмяніць сваю палітыку й рэалізаваць інтэграцыю з Расеяй.

Ялянта Сьмялоўская, Варшава, Польшча.

********************************************

# Якім бокам Польшча павінна павярнуцца да Беларусі?

## Эксперты пра візавы рэжым для Беларусі

Пра ўвядзенне Польшчай візавага рэжыму ў дачыненні да Беларусі ў СМІ гаварылася шмат. Нашы калегі з Беларускай рэдакцыі Радыё Палёнія падрыхтавалі для «БІ» дыскусію па гэтаму пытанню з удзелам дасведчаных экспертаў. У ёй бяруць удзел – амбасадар

Рэспублікі Беларусь Павал Латушка, дырэктар Дэпартаменту Усходняй Еўропы Міністэрства замежных спраў Польшчы Збігнеў Рачыньскі, журналіст тыднёвіка «WPROST», дарадца па міжнародных пытаннях у кабінеце прэм'ера Ежы Бузэка Ежы Марэк Навакоўскі, дырэктар Еўрапейскага Форуму з фундацыі імя Стэфана Баторыя Якуб Баратыньскі, а таксама па тэлефоне ў дыскусіі прыняў удзел лідар Беларускага Народнага Фронту Вінцук Вячорка.

Размова адбывалася па-польску, а вёў яе Тамаш Саевіч.

Тамаш Саевіч: На апошнім раўндзе перамоваў адносна ўвядзення візавага рэжыму паміж Польшчай і Беларуссю, 12-13 траўня бягучага года, абодва бакі згадзіліся, каб кошт аднаразовай візы, як беларусам, так і палякам, склаў 10 еўра, а гадавой візы – 50 еўра. Такім чынам не здзейсніліся чаканні многіх, што ў дачыненні да Беларусі будзе таксама выкарыстаны так званы «украінскі варыянт», калі Польшча ўводзіць бясплатныя візы для грамадзян Украіны, а грамадзяне Польшчы змогуць ездзіць на Украіну ў безвізавым рэжыме. У дамове паміж Польшчай і Беларуссю знаходзяцца, між іншым, запісы, на падставе якіх консулы змогуць выдаваць бясплатныя візы асобам ва ўзросце да 16 гадоў, звыш 65 гадоў, інвалідам, асобам, што наведваюць магілы сваіх блізкіх, удзельнікам культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, навукоўцам, студэнтам, чальцам рабочых групаў еўрарэгіёнаў «Нёман» і «Буг», а таксама асобам, якія падарожнічаюць паміж краінамі ў сувязі з хваробай альбо смерцю чальца сям'і. Варта дадаць, што 50%-ная скідка ў цане візу прадбачаная для асобаў, якія намерваюцца перасякаць польска-беларускую мяжу з мэтай падтрымкі сямейных кантактаў. Я хачу, каб нашая размова засяродзілася цяпер на тым, што перад намі стаіць патрэба новага ахарактарызавання напрамкаў польскай замежнай палітыкі, у тым ліку і ўсходняй. Значэнне Польшчы на мапе свету цягам апошніх месяцаў значна павялічылася – краіна 1 траўня 2004 г. стане чальцом Еўрапейскага Звязу. Гэта два чыннікі, на падставе якіх відаць патрэбу кшталтавання польскай замежнай палітыкі ў новай рэчаіснасці.

Ежы Марэк Навакоўскі:

– Несумненна, існуе патрэба новай інтэлектуальнай рэфлексіі над замежнай палітыкай Польшчы. Але ці існуе патрэба ахарактарызавання нанава ўсходняй палітыкі Польшчы? Мне здаецца, што гэтая палітыка была стабільная цягам апошніх 12 гадоў, і нават крыху даўжэй. Была гэта палітыка поўнага адабрэння, замацоўвання, падтрымкі таго, што мы можам назваць перасоўваннем межаў каштоўнасцяў заходняга свету на ўсход. Таксама заходняга дабрабыту і заходніх палітычных арганізацыяў. Зразумела, былі розныя фактары, якія станоўча альбо адмоўна паўплывалі на гэты працэс. Але ў асноўным, гэтая палітыка не памянялася, і што важнейшае – скажам, «асноўны стрыжань» усходняй палітыкі Польшчы з'яўляецца элементам палітычнай згоды ў Польшчы. На такі кшталт усходняй палітыкі згаджаюцца ўсе палітычныя сілы ў нашай краіне, і здаецца, што не трэба ахарактарызоўваць гэтую палітыку нанава. Нам трэба пераконваць частку партнёраў у Еўрапейскім Звязе, што такая палітыка можа быць палітыкай усяго Еўрапейскага Звязу, ці Паўночна-Атлантычнага Пакту.

Тамаш Саевіч: Не да канца магу з Вамі згадзіцца. Нагадаю, што некалькі месяцаў таму, з Вашым удзелам прайшла дыскусія, прысвечаная польска-беларускім стасункам, і тады ўсе мы мелі сумневы наконт канкрэтных дзеянняў у рамках замежнай палітыкі Польшчы ў дачыненні да Беларусі. З намі тут Якуб Баратыньскі з фундацыі імя Стэфана Баторыя, які ў сярэдзіне лютага бягучага году зладзіў канферэнцыю, прысвечаную менавіта пытанням суадносінаў паміж Польшчай і яе ўсходнімі суседзямі пасля таго, як усходнія межы Польшчы стануцца ўсходнімі межамі ўсяго Еўрапейскага Звязу.

Якуб Баратыньскі:

– Я толькі дадам, што канферэнцыю мы ладзілі супольна з польскім Міністэрствам замежных спраў. Мне здаецца, што сапраўды няма патрэбы ахарактарызоўваць нанава нашай усходняй палітыкі, але затое існуе патрэба, каб мы гэтую мадэль прапанавалі нашым партнёрам у Еўразвязе. Пры нагодзе, мы атрымаем пэўныя прылады, хаця б такія, як звязаўскія праграмы для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Мне здаецца, што ў гэтай галіне мы вымушаныя шмат чаму навучыцца. Мы не ведаем, як карыстацца гэтымі сродкамі. Мы вымушаныя мець добрую ідэю – як выкарыстаць гэтыя сродкі. Я лічу, што польскія няўрадавыя арганізацыі ўжо цягам апошніх гадоў маюць ідэю, якім чынам выкарыстоўваць звязаўскія сродкі, прызначаныя на Усходнюю Еўропу. Яны падтрымліваюць розныя грамадскія ініцыятывы. Польскія няўрадавыя арганізацыі інвестуюць у будучыя эліты. Мы, як фундацыя імя Стэфана Баторыя, таксама вядзем такую праграму, у рамках якой маладыя беларускія навукоўцы прыязджаюць у розныя польскія навуковыя ўстановы на стажыроўкі. Выклік, які перад намі – гэта пераканаць людзей, што гэта танныя праграмы, параўноўваючы іх да іншых дзеянняў у польскай замежнай палітыцы. Гаворка пра тое, каб падтрымліваць праеўрапейскія імкненні народаў, якія, не зважаючы на сітуацыю, відаць таксама ў Беларусі. Да гэтага могуць прычыніцца стажыроўкі, стыпендыі, магчымасць паездак на Захад, у тым ліку ў Польшчу. Мне здаецца, што справа «мяжы прыязнай чалавеку» вельмі важная з увагі на яе сімвалічнае і практычнае вымярэнне. Ідэя «прыязнай мяжы» – гэта не толькі пытанне візаў. Мне вельмі балюча, што ўсходняя мяжа Польшчы толькі тэарэтычна адкрытая. Я маю сяброў на Беласточчыне. Некалі я паехаў да іх з пашпартам, спадзяючыся, што можа ўдасца хоць на адзін дзень паехаць у Беларусь. Як вядома, з-за тэхнічных праблемаў гэта немагчыма. У гэтым вінаватыя абодва бакі. Пакуль гэтая мяжа не будзе нагадваць польска-чэскай, ці польска-славацкай мяжы, датуль мы будзем мець пачуццё жорсткай мяжы, якая падзяляе два розныя светы.

Павал Латушка:

– Давайце ўявім сабе сітуацыю, што, каб атрымаць візу, трэба стаяць у чэргах у польскім консульстве. На маю думку, гэта будуць вельмі вялікія чэргі, бо плануецца выдаваць у год каля 600 тысячаў польскіх візаў. Потым трэба вельмі доўга чакаць на перасячэнне польска-беларускай мяжы. Ці беларусы захочуць тады ездзіць у Польшчу, і ці таксама палякі захочуць надалей ездзіць у Беларусь? На маю думку, гэта вельмі важная праблема. Я лічу, што адна з найважнейшых спраў, якая чакае Еўрапейскі Звяз, гэта стварыць палітыку ў дачыненні да ўсходніх дзяржаваў – будучых суседзяў Еўрапейскага Звязу. Беларусь вельмі станоўча ўспрыняла захады Польшчы ў пытанні стварэння палітыкі ў дачыненні да яе ўсходніх суседзяў. Мы размаўляем з польскім бокам на гэтую тэму, але беларускі бок лічыць, што павінна быць больш падрабязнасцяў у гэтым пытанні. Беларусь вітае факт далучэння Польшчы да Еўразвязу. Беларусь хоча максімальна выкарыстаць гэты факт. З аднаго боку, мы хочам выкарыстаць станоўчыя бакі ўваходу Польшчы ў Еўразвяз, а з другога боку, мы хочам пазбегчы адмоўных фактараў, хаця б такіх, як абмежаванні з уваходам на польскі і звязаўскія рынкі некаторых беларускіх тавараў, хаця б такіх стратэгічных для беларускай эканомікі, як калійная соль. Трэба таксама мець на ўвазе тое, што расійскі фактар заўсёды быў і будзе вызначальным для Беларусі. Гэта, на маю думку, вынікае з гісторыі, так і будзе ў будучыні. З іншага боку, мы маем на Захадзе таксама важную суседку – Польшчу. Мы прапануем польскай краіне павярнуцца да нас левым альбо правым бокам. А ці левым, ці правым – гэта ўнутраная справа Польшчы.

Тамаш Саевіч: Я хацеў бы яшчэ папрасіць адказаць на пытанне, прысвечанае мадэлі стасункаў Беларусі з Польшчай спадара Вінцука Вячорку.

Вінцук Вячорка:

– Цягам апошніх некалькіх гадоў, паводле сацыёлагаў, каля 20% маіх суродзічаў перасякалі польскую мяжу. Сярод гэтых 20% у два разы больш прыхільнікаў рынкавай эканомікі і дэмакратыі і еўраатлантычнага выбару за сярэдні паказчык па краіне. Верагодна, гэта пра нешта сведчыць і тлумачыць, чаму афіцыйны Мінск супраціўляецца „нулявому варыянту". Прыгадваю сабе выказванне міністра Цімашэвіча некалькі месяцаў таму, падчас канферэнцыі, прысвечанай усходняму вымярэнню пашырэння Еўразвязу, якую супольна арганізавалі Міністэрства замежных спраў Польшчы і фундацыя імя Стэфана Баторыя. Міністар Цімашэвіч сказаў, што для 3 краінаў – Беларусі, Украіны і Малдовы вымушана быць „не абяцанне, але шанец, перспектыва далучэння да Еўразвязу". Апошнія апытанні грамадскай думкі ў Беларусі сведчаць пра тое, што, ў выпадку правядзення дэмакратычнага рэферэндуму па пытанні далучэння да Еўразвязу, каля 65% маіх землякоў сказала б ТАК. Гэта сведчыць пра тое, што грамадства мае іншы пункт погляду на перспектыву Беларусі, чым цяперашняе кіраўніцтва краіны. Менавіта таму мы вельмі высока ацэньваем ініцыятывы польскага ўраду, які клапоціцца пра ўсходняе вымярэнне пашыранага Еўразвязу. Гэта было б важным сігналам для нашага грамадства, што ўсё ж нас лічаць еўрапейцамі, нас чакаюць у супольным еўрапейскім доме.

Тамаш Саевіч: Спадар дырэктар, здаецца, што Польшча высылае такія сігналы ў бок Беларусі?

Збігнеў Рачыньскі:

– Падумайма ў катэгорыях Польшчы, якая далучылася да Еўразвязу. Праблемай для нас з'яўляецца тое, каб у нашым бачанні ўсходняй палітыкі пераканаць нашых партнёраў, а гэта няпроста. Пра гэта сведчыць той факт, што ўсходняе вымярэнне, як мы яго назвалі, размылася ў іншай ініцыятыве блізкага суседства, у маштабе ўсіх межаў Звязу. Пры поўнай пашане інтарэсаў Іспаніі ці Партугаліі і паўднёвых краінаў Еўразвязу ды значэння для гэтых краінаў стасункаў, для прыкладу, з Магрэбам, у нашых нацыянальных інтарэсах, а ў будучым – у інатарэсах Еўропы, якая аб'ядноўваецца, ляжыць той факт, каб мы надавалі прыярытэтнае значэнне стасункам з краінамі Усходняй Еўропы. Гаворка не вядзецца толькі пра суседства. Тут маецца на ўвазе ўнікальны ў гістарычным маштабе шанец аб'яднання гэтага кантыненту. Важным для мяне з'яўляецца выбар дадзенай дзяржавы ці грамадства, але мы вымушаныя шчыра прызнаць, што справа не толькі ў выбары, але ў прыстасаванні да ўжо дзейных правілаў, стандартаў. Не настолькі важна, ці беларускія альбо ўкраінскія ўлады заяўляюць пра гатоўнасць далучыцца да Еўразвязу ці супрацоўнічаць з ім. Істотна, ці яны знойдуць унутраныя рэзервы, моц, рашучасць, аргументы, каб пераканаць грамадства і памяняць мадэль стасункаў, палітычнай сістэмы такім чынам, каб яны непасрэдна пасавалі да ўмоваў Еўразвязу.

Размову вёў Тамаш САЕВІЧ,
«Беларуская рэдакцыя
Радыё Палёнія»



# Умова мовы

**Сёньняшняй дзяржаўнай сыстэме ўласьцівы парадокс: чым больш размоваў пра незалежнасьць, тым менш на тэлевізіі, радыё, у школе беларускае мовы. Усе навіны БТ й палова «Панарамы» (відаць, у выніку канкурэнцыі з АНТ) — ужо па-расейску. «Настасься Слуцкая» — па-расейску. Міністры адукацыі й культуры — і то па-расейску.**

У эканоміцы ўлада пасьлядоўна выконвае ўсё, што казаў Пазьняк дзесяць гадоў таму. У палітыцы імпэрскія памкненьні Крамля выкрываюцца афіцыёзам на кожным кроку. Але што да сымболікі й мовы — ані!

Ці магчымае поўнае пераразжэньне рэжыму?

Як казаў калісьці найбуйнейшы адмысловец у справе пераўвасабленьняў Павал Якубовіч, беларуская мова для яе носьбітаў — сыстэма апазнаваньня «свой—чужы»: гаворыш па-беларуску — «наш», па-расейску (хто б ты ні быў) — «іншы». Такім чынам, мы зноў празь дзесяцігодзьдзе вяртаемся да пытаньня мовы. Колькі б ні спрабавалі ці ўладныя, ці апазыцыйныя прагматыкі сьпісаць «моўную праблему» ў архіў — яна ўсё гэтак жа будзе выконваць ролю псыхалягічнае мяжы. Яе будзе балюча пераадольваць, яна будзе зноў расколваць апазыцыю, на ёй зноўку будзе гуляць Масква, а ў масавай сьвядомасьці менавіта яна стане знакам рэальнае незалежнасьці. Беларусі рана ці позна давядзецца пераходзіць на беларускую — спрачацца можна адно наконт мэтадаў.

Тэарэтычна беларусізацыя магчымая й цяпер. Нягледзячы на страты апошніх гадоў, мова захавала стратэгічны патэнцыял адналеньня. Гэта і больш за 40% беларусаў, якія пазначылі, што гутараць дома па-беларуску (няхай гэта больш жаданьне, чым рэчаіснасьць, — жаданьне паказальнае!), і 85,6% тых, хто назваў яе роднай. Гэта і беларускамоўная моладзь у сталіцы й буйных гарадох, прычым пераважна ў актыўных грамадзкіх і творчых асяродках. Гэта і элітарнасьць: мова ўспрымаецца як аналяг культурнасьці й інтэлігентнасьці («беларускамоўны — значыць, пісьменьнік, настаўнік або палітык»). Праўда, праблемамі мовы цяпер сур'ёзна займаецца хіба ТБМ — у астатніх чамусьці мову адняло. Вось тут бы і пераняць ініцыятыву...

**Але!**

Загаварыўшы па-беларуску, Лукашэнка ўмомант робіцца «чужым» для свайго электарату. Больш таго — ён робіцца «іншым» і для патэнцыйнага расейскага выбарца, на якога разьлічаны ўвесь гэты саўковы піяр пра «рускага чалавека», які штораз вывальваецца перад маскоўскімі тэлекамэрамі. Таму ў арсэнале намэнклятуры мова прадугледжваецца толькі ў выглядзе разавых прамоваў (дзе-небудзь у Нясьвіжы ці Маладэчне) і толькі як прынада для «нацыяналістаў».

У траўні 1995-га, вызначыўшы беларускую мову як мяжу, рэжым загнаў сябе ў кут. Адсюль і марнасьць пошукаў «белорусской идеи» — ужо год як выназходзяць папараць-кветку. З расейскамоўнае гаварыльні ці пісаніны беларуская нацыянальная ідэя ня можа нарадзіцца ў прынцыпе — бо гэтая ідэя дадзеная нам Богам у камплекце з ключом унікальнае мовы. Беларускасьць зь яе культурай кнігі, ускалыханая ў міжмоўі Захаду й Усходу, можа быць расшыфраваная толькі праз Слова.

Таму, калі мы прыйдзем да ўлады, сярод прафэсійных патрабаваньняў для чыноўнікаў абавязкова будзе і гэтае. Умова мовы.

**Павал Севярынец** /Наша Н./

*****************************************************

# Падземная скарбніца

**Алена ДЗЯДЗЮЛЯ** /Звязда/

Ля возера Сялява знойдзены рэчы, якія датуюцца стагоддзямі да нашай эры

Гэты край поўны таямніц. Тут ходзіць шмат легенд. На сучасных могілках сустракаюцца крыжы з выявамі паганскай сімволікі. Тут могуць «пажывіцца» цікавай інфармацыяй розныя навукоўцы: этнографы, лінгвісты, фалькларысты. Больш таго, зямля захавала рэчы, якімі карысталіся стагоддзі таму, археолагі адкапалі нават такія знаходкі, якія датуюцца стагоддзямі да нашай эры. Археалагічныя раскопкі на Выспянскай гары ля возера Сялява вядуцца з 1999 года. І, як заўважае кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела археалогіі жалезнага веку Інстытута гісторыі НАН Вадзім Шадыра, па насычанасці культурнага пласта (гэта слой зямлі, які ўтвараецца ў выніку жыццядзейнасці людзей, глыбіня, на якую капаюць археолагі) знаходкамі гэту мясціну можна назваць унікальнай не толькі ў Беларусі, але і ва Усходняй Еўропе. Так, сёлета на плошчы 60 квадратных метраў, дзе праводзіліся раскопкі, адкапана больш за 200 індывідуальных знаходак з гліны, каменю, бронзы, жалеза. Тут і розныя гаспадарчыя прылады, і наканечнікі стрэл, грузікі для рыбацкіх сетак, косці

жывёл і чалавека і некалькі тысяч фрагментаў глінянага посуду... Упершыню на гарадзішчы знойдзены посуд, выраблены з бяросты. Рэчы з падобных далікатных матэрыялаў цяжка пераносяць выпрабаванні стагоддзямі. Гэтая ж берасцяная урна, відаць захавалася таму, што была крыху абпаленая. Такі посуд у эпоху жалеза выкарыстоўвалі ў рытуальных мэтах — засыпалі сюды астанкі спаленага нябожчыка. Магчыма, далейшыя раскопкі дапамогуць высветліць, якім быў абрад пахавання ў гэтыя часы. Даволі рэдкая знаходка для гарадзішчаў і жорны эпохі жалеза.

Прынамсі, рэчы, знойдзеныя сёлета на Выспянскай гары, прымусілі здзівіцца бывалых археолагаў, даследчыкаў розных эпох. Напрыклад, Вадзім Шадыра паказваў калегам вырабы з крэменю, якія прымусілі задумацца археолагаў, што вывучаюць эпохі каменнага веку і бронзы, ці касцяны гарпун (эпоха мезаліту).

Самай жа цікавай знаходкай-2003 лічыцца скарб жаночых упрыгажэнняў, які датуецца VII—VIII стагоддзямі: 5 скроневых сярэбраных кольцаў, 3 бранзалеты і 15 спіралепадобных пранізак, якія ўваходзілі ў склад галаўнога ўбору — вянка. Прынамсі, гэты скарб паставіў перад навукоўцамі не адно пытанне. Давядзецца яшчэ разгадаць, што азначаюць арнаменты на бранзалетах і якая дзяўчына насіла такія ўпрыгажэнні. Скроневыя кольцы больш характэрныя для крывічоў, бранзалеты і пранізкі — для балтаў. А калі ўсё гэта належала адной асобе, то можна меркаваць, што ў той час альбо славяне знаходзіліся пад уплывам культуры балцкіх плямён, альбо наадварот. Але адно бясспрэчна: гаспадыня ўпрыгажэнняў была даволі заможнай. І яшчэ: усе рэчы ляжалі на глыбіні метра адной купкай, быццам іх похапкам нехта закопваў, а крыху вышэй археолагі знайшлі астанкі чалавечага шкілета. Ці не самой уладальніцы гэтага багацця? Трэба заўважыць, што тыя часы былі даволі неспакойныя, аб чым сведчаць рэшткі пажарышчаў на гарадзішчы. Відаць, людзі змагаліся за гэту тэрыторыю.

Дарэчы, выспа на возеры Сялява ўтварылася ў выніку пад'ёму вады пры будаўніцтве гідраэлектрастанцыі ў 50-я гады XX стагоддзя. А раней тут быў перашыек паміж двума азёрамі — Абіда і Сялява. Падчас сухога лета сюды можна дабрацца пешшу (глыбіня крыху вышэй за калена). І толькі ў непагодлівы час даводзіцца плыць на лодках. Хаця, відаць, у раннім жалезным веку, калі клімат быў больш цёплы і сухі, узровень вады тут быў значна меншы, а гара — больш высокай. У час паводак вада разбурае бераг, зямля абрушваецца культурным пластом — тут яўна жылі людзі.

Вартая ўвагі гэтая мясціна і тым, што знаходзіцца ў рэгіёне агульнаеўрапейскага водападзелу Балтыйскага і Чорнага мораў. Тут праходзіў адзін з маршрутаў «з варагаў у грэкі». Само возера звязвае басейны Заходняй Дзвіны і Дняпра. А раней як было: людзі сяліліся у басейнах рэк, прычым ля кожнай ракі абжывалася сваё племя. Таму ля возера Сялява сутыкаюцца розныя археалагічныя культуры эпохі жалеза: днепрадзвінская і культура штрыхаванай керамікі, рэчы побыту прадстаўнікоў абедзвюх культур знойдзены археолагамі. Вадзім Шадыра адзначае, што гэтыя падземныя скарбы маглі б так і заставацца ў зямлі, калі б не дапамога скаўтаў з краязнаўчага аб'яднання «Малое Палессе», якое ўзначальвае настаўнік крупскай школы, гісторык Андрэй Аляхновіч. І ад такога супрацоўніцтва двайная карысць: вучоныя атрымліваюць матэрыялы для даследавання, а дзеці з крупскіх школ на практыцы пазнаюць гістарычнае мінулае...

Наогул, знаходкі ля возера Сялява дапамогуць праліць святло на некаторыя старонкі гісторыі Беларусі. «Мы адкапалі некаторыя артэфакты, аналагаў якім да гэтага часу няма. Перш за ўсё гэта касцяныя пласцінкі-амулеты з рэбраў жывёл. Знайшлі яму-ахвярнік, шмат слядоў рэлігійных вераванняў розных часоў: ад эпохі бронзы да эпохі ранняга сярэднявечча. Напрыклад, адкапалі шкілет — і побач з ім крамянёвую рытуальную сякеру, што дало падставу для сцвярджэння аб пахаванні эпохі бронзы прыкладна 2 тысячагоддзя да нашай эры. Умацаванае паселішча тут стварыла насельніцтва днепрадзвінскай культуры. З цягам часу яго пацяснілі насельнікі культуры штрыхаванай керамікі. Большая частка матэрыялаў датуецца I—VIII стагоддзямі нашай эры. Калі атрымаем дадатковыя матэрыялы, магчыма, даведаемся, як праходзіў працэс засялення гэтай тэрыторыі славянамі. І гэты перыяд даволі складаны і важны ў кантэксце еўрапейскай гісторыі — праходзіла вялікае перасяленне народаў. Прынамсі, гэты час не мае пісьмовых крыніц, толькі археалагічныя знаходкі даюць інфармацыю... Матэрыялы раскопак сведчаць, што тут і ў познім сярэднявеччы, прыкладна ў XV—XVII стагоддзях, віравала жыццё, знойдзены манеты XVI стагоддзя, кафля», — распавядае Вадзім Шадыра.

І даследавана тут пакуль толькі адна трэць тэрыторыі...

*****************************************************




# «Пепсі», гамбургер, чыпсы і бульба фры — тайныя ворагі чалавецтва...

**Надзя НІКАЛАЕВА** /Звязда/

Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя сцвярджаюць, што колькасць і якасць спажываемых прадуктаў харчавання вызначаюць здароўе і працягласць жыцця чалавека. На жаль, сучасныя традыцыі ў галіне харчавання ўмацаванню нашага здароўя дакладна не спрыяюць, больш таго, на думку медыкаў, гастранамічныя прыхільнасці становяцца прычынай прыкладна трэцяй часткі ўсіх захворванняў на рак. Напрамую залежыць ад кулінарных прыхільнасцяў і стан сардэчна-сасудзістай сістэмы чалавека.

**Ранняя гародніна — кладоўка ядаў?**

Усё часцей на Захадзе набыткам галоснасці становяцца даследаванні, якія ставяць пад пытанне той ці іншы вельмі папулярны сярод насельніцтва прадукт ці нават цэлую групу прадуктаў.

У ЗША некалькі гадоў таму разгарнулася кампанія супраць так званых «вадкіх ледзянцоў», або каляровай газіроўкі, якая замяніла падрастаючаму пакаленню ўсе карысныя прадукты: морсы, кампоты, малочныя напоі і сокі. Сімвалы амерыканскага ладу жыцця — «Пепсі-кола» і «Кока-кола» — былі аб'яўлены ворагамі дзіцячага здароўя. Амерыканскія медыкі, у прыватнасці, сцвярджаюць, што захапленне газіраванымі напоямі правакуе атлусценне, і прыводзяць як доказ наступныя лічбы: за апошнія 30 гадоў у Злучаных Штатах істотна павялічылася колькасць поўных падлеткаў (сярод хлопчыкаў — з 7 да 15, а сярод дзяўчынак — з 4 да 13 працэнтаў). У ходзе даследавання было ўстаноўлена, што падлеткі, якія маюць праблемы з вагой цела, атрымліваюць з газіроўкамі больш за 10 працэнтаў сутачнай колькасці калорый, у той час як іх равеснікі з нармальнай вагой — толькі 7 працэнтаў калорый.

У два разы ў параўнанні з 70-і гадамі XX стагоддзя, зменшылася спажыванне маленькімі амерыканцамі малака і малочных прадуктаў, якія з'яўляюцца асноўнымі пастаўшчыкамі кальцыю ў арганізм, у той час як спажыванне «Кока-колы», «Пепсі-колы», наадварот, істотна павялічылася. Дэфіцыт жа кальцыю, які актыўна назапашваецца менавіта ў дзіцячым узросце, пагражае развіццём з гадамі астэапарозу — стану, пры якім косці становяцца крохкімі. Пералом шыйкі бядра — класічная праява астэапарозу.

Яшчэ адна непрыемнасць з-за празмернага захаплення «вадкімі ледзянцамі» — гэта развіццё карыесу, якое правакуецца рафінаваным цукрам, што змяшчаецца ў газіроўках у вялікіх дозах. Небяспечныя ў алергічным плане для дзіцячага здароўя і фарбавальнікі, якія ўваходзяць у іх склад. А «чароўныя пузыркі» — зусім не бясшкодныя для слізістай страўніка дзіцяці.

Некаторыя з даследчыкаў схільныя лічыць, што існуе прамая сувязь паміж спажываннем салодкіх газіраваных напояў і ўтварэннем камянёў у нырках. Для пацвярджэння гэтай гіпотэзы было абследавана больш за тысячу хворых, у якіх былі выяўлены ў нырках камяні — усе яны выпівалі штодня не менш чым шклянку «Кока-колы». Палове з іх ўрачамі было рэкамендавана скараціць спажыванне напітку ўдвая. Праз тры гады абследаванне зноў паўтарылі. Высветлілася, што ў тых, хто стаў спажываць «Колы» менш, новыя камяні ў нырках ўзнікалі ў тры разы радзей. Мяркуецца, што ўтварэнню камянёў спрыяе фосфарная кіслата, якая выкарыстоўваецца для падкіслення «Кока-колы» і «Пепсі».

У Аўстрыі прадметам цікавасці эколагаў стаў рынак ранніх культур, што паступаюць у краіну з паўднёвай Еўропы. Даследчыкі ўстанавілі, што 75 працэнтаў усёй імпартуемай у Аўстрыю садавіны і гародніны атручана пестыцыдамі. Клубніцы, вінаград, папрыка, агуркі, салата і памідоры аказаліся перанасычанымі хімічнымі рэчывамі, якія прымяняюцца пры інтэнсіўнай тэхналогіі вырошчвання раслін. У папрыцы, напрыклад, было знойдзена 8 ядавітых рэчываў, а ўвогуле ва ўсёй ранняй «зялёнай» прадукцыі — 15 розных ядавітых субстанцый. Пасля абнародавання вынікаў даследавання эколагі і медыкі запатрабавалі ўзмацнення закона, які рэгламентуе наяўнасць шкодных рэчываў ва ўвозімых прадуктах.

Інфармацыю да роздуму падкінула і група біяхімікаў Стакгольмскага універсітэта, якія знайшлі ў смажанай і печанай ежы вельмі небяспечнае канцэрагеннае рэчыва — акрыламід, здольнае выклікаць у чалавека развіццё анкалагічных захворванняў. Самымі «акрыламіднымі» аказаліся бульбяныя чыпсы і бульба фры. Шведскія навукоўцы сцвярджаюць, што кілаграм чыпсаў у 40 разоў больш небяспечны, чым кілаграм смажаніны. Хаця і смажанае мяса таксама нельга назваць бясшкодным для здароўя прадуктам: «эфект» ад спажывання кілаграмовага кавалка смажанага мяса можна параўнаць з разавай дозай апраменьвання на рэнтгенаўскім апараце.

**Атрута на патэльні**

Увогуле, веданне прынцыпаў правільнага прыгатавання ежы, сцвярджаюць дыетолагі, можа засцерагчы ў будучыні ад многіх праблем. Наўрад ці хтосьці з нас па добрай волі зможа адмовіцца ад смажанага мяса ці шашлыка, пах якога пранікае літаральна ў кожную клетачку і абуджае апетыт. Галоўнае правіла, якога павінны прытрымлівацца ўсе хатнія гаспадыні, — гэта не перасмажваць ежу на агні. Пры абпальванні і працяглай тэрмічнай апрацоўцы мяса (больш за адну гадзіну) у ім разбураюцца незаменныя амінакіслоты, што, безумоўна, зніжае біялагічную каштоўнасць мясных бялкоў. Тое ж адбываецца і з амінакіслотамі згушчанага малака, якое награваецца ў бляшанцы да залацiста-карычневага колеру.

Пераграванне бялковых прадуктаў прыводзіць да ўтварэння канцэрагенных і мутагенных рэчываў, якія выклікаюць незваротныя змяненні ў спадчынных структурах клеткі. Так, мутагеннасць экстракту падсмажанага кавалка мяса ў 10—50 разоў перавышае мутагеннасць запечанага ці адваранага мяса.

Пад уздзеяннем высокіх тэмператур тлушчы разбураюцца: у іх з'яўляюцца перакісныя спалучэнні і канцэрагены. Ні ў якім разе нельга даваць тлушчу дыміцца на патэльні, а таксама выкарыстоўваць перагрэты тлушч. Ад сметанковага масла пры смажанні лепш увогуле адмовіцца, паколькі яно разбураецца пры адносна нізкай тэмпературы — 120—130 градусаў. Для параўнання: алей разбураецца пры тэмпературы 180—200 градусаў. І, зразумела, нельга выкарыстоўваць алей, на якім смажыцца ці падаграваецца ежа, больш чым адзін раз, таму што ў кожным наступным выпадку негатыўнае ўздзеянне на арганізм канцэрагенных рэчываў узмацняецца.

Заслугоўвае ўвагі наступны эксперымент. Хімікі вырашылі даследаваць саскрэб з патэльні, якая не ачышчалася 15 дзён, а затым накармілі гэтай «атрутай» пацукоў. Пры мікраскапіі слізістай абалонкі страўніка грызуноў у ёй былі выяўлены ўчасткі амярцвення, працсей кажучы, харчаванне перагрэтымі тлушчамі пацягнула ў эксперыментальных жывёлін развіццё ракавага захворвання.

Дыетолагі рэкамендуюць мясныя і рыбныя стравы смажыць у невялікай колькасці алею на патэльні са спецыяльным антыпрыгарным пакрыццём — гэта не толькі зменшыць колькасць утвараемых пры пераграванні канцэрагенаў, але і знізіць паступленне ў арганізм тлушчаў. Інфармацыя да роздуму: беларусы сёння спажываюць тлушчаў у 2,5 раза больш, чым еўрапейцы, а смяротнасць ад ішэмічнай хваробы сэрца ў нашай краіне самая высокая ў Еўропе.

**Свежае зяляніва — супраць канцэрагенаў**

Небяспечнай у анкалагічным плане гастранамічнай звычкай лічыцца і цяга да вострай, салёнай і гарачай ежы. Так, высокую смяротнасць бразільцаў ад раку стрававода медыкі тлумачаць любоўю карэннага насельніцтва да гарачага танізуючага напою йорбэ-матэ: ён гатуецца з лісця мясцовай кустовай расліны, якое засыпаецца ў маленькі гарбуз і заліваецца крутым кіпнем. Гарачы напой ўсмоктваецца праз трубачку, якая ўтыкаецца ў гарбуз. З-за пастаяннага ўздзеяння гарачай вадкасці развіваецца хранічнае запаленне стрававода, якое з цягам часу прыводзіць да развіцця раку. Характэрна, што на поўначы Бразіліі рак сустракаецца даволі рэдка, і гэтаму таксама ёсць тлумачэнне: у гэтай частцы краіны прыжыўся звычай класці ў гарачы напой кавалачкі лёду.

У Японіі самая высокая захворваемасць на рак страўніка і стрававода зарэгістравана ў прэфектуры Нара, дзе вялікай папулярнасцю карыстаецца вельмі гарачая рысавая каша. І апошні пераканаўчы прыклад: у некаторых краінах Усходу па старажытнай традыцыі ежа спачатку падаецца мужчынам, а жанчыны ядуць значна пазней, калі яна ўжо паспявае астыць. У выніку жанчыны пакутуюць ад раку стрававода значна радзей, чым мужчыны.

Павелічэнне рызыкі развіцця анкалагічных захворванняў з-за спажывання салёных, марынаваных і вэнджаных прадуктаў медыкі тлумачаць наяўнасцю ў гэтых прадуктах канцэрагенаў — нітразамінаў і ПАУ. Надзвычай «багатыя» на нітразаміны вэнджаныя каўбасы, мясныя кансервы і вяндліна: як кансерванты і стабілізатары ружова-чырвонага колеру ў іх дабаўляюцца нітрыты, якія ў арганізме ўтвараюць нітразамінныя спалучэнні. Папярэдзіць утварэнне нітразамінаў і выклікаемы імі канцэрагенны эфект можа вітамін С, якога шмат змяшчаецца ў раслiннай ежы. Вось чаму вяндліну і каўбасу трэба абавязкова ўжываць са свежым зялянівам — лісцем салаты ці шпінату. Ці проста можна «закусіць» таблеткай аскарбінавай кіслаты (ад 100 да 500 мг).

**Падводныя камяні «фэст-фуда»**

Сёння ў Злучаных Штатах разгортваецца новы скандал, у цэнтры якога аказаўся «Макдональдс»: група спажыўцоў абвінавачвае сетку рэстаранаў хуткага харчавання ў тым, што іх ежа стала прычынай развіцця ў іх атлусцення. Дзіўна, чаму абураныя спажыўцы не прыслухаліся раней да рэкамендацый медыкаў не

 



захапляцца «фэст-фудам»?

У перакладзе з англійскай мовы «фэст-фуд» азначае «хуткае харчаванне», таму да «фэст-фуда» можна з поўным правам аднесці не толькі гамбургеры, біг-макі, сандвічы, піцу, але і хот-догі, чабурэкі, сасіскі ў цесце, гарачыя беляшы, піражкі, смажні, што прадаюцца ў нас літаральна на кожным кроку.

У буйных гарадах да «фаэст-фуда» вымушаны звяртацца амаль усе іх жыхары, паколькі гэта не толькі самы танны, але і самы зручны і хуткі спосаб падсілкавацца. Як правіла, хуткае насычэнне дасягаецца за кошт рэкорднай колькасці спажываемых за адзін раз калорый. Звычайна кліентам прапануецца спалучэнне цеста і мяса (булкі і сасіскі ці катлеты ў разагрэтым стане). Заўважым, што дыетолагі ўвогуле не рэкамендуюць спажываць гарачы хлеб. Плюс на ваш гарачы «бутэрброд» выліваюцца кетчуп, гарчыца ці маянэз, а гэта ўжо не проста калорыі, а тлушчы, якія дрэнна засвойваюцца арганізмам і дзякуючы якім залішнія калорыі ператвараюцца ў тлушчавыя адклады. Пры гэтым кока-кола ці піва, якімі запіваецца абед, толькі паскараюць працэс «абрастання» лішнім тлушчам.

Да мінусаў «фэст-фуда» трэба аднесці і дэфіцыт у ім мікраэлементаў, вітамінаў і паўнавартаснага бялку, неабходнага для будаўніцтва новых клетак. Ёсць і яшчэ адна акалічнасць, на якую наведвальнікі рэстаранаў хуткага харчавання, як правіла, не звяртаюць належнай увагі: гарачыя гамбургеры ці бульбу фры ім прапаноўваюць запіваць ледзянымі напоямі. Па-першае, халодная ежа пакідае страўнік хутчэй за цёплую, і паўнавартаснага пераварвання бялкоў пры гэтым не адбываецца, што пагражае развіццём у прыхільнікаў «фэст-фуда» дысбактэрыёзу і парушэннямі ў рабоце страўнікава-кішачнага тракта. А па-другое, адчуванне сытасці пасля такога «перакусу» вельмі хутка знікае.

Безумоўна, у шалёным рытме нашага жыцця поўнасцю адмовіцца ад «фэст-фуда» нерэальна, і медыкі гэта цудоўна разумеюць, аднак папярэджваюць: калі гамбургеры і піца стануць штодзённым атрыбутам і заменяць паўнавартаснае харчаванне, праблем з вагой цела і страўнікавымі захворваннямі пазбегнуць вам не ўдасца.

*******************************

# Модная птушка Кіпель

**Вітаўт Кіпель прыехаў у Беларусь зь Нью-Ёрку на прэзэнтацыю кнігі «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе», якую ён напісаў разам з жонкай Зорай. Прэзэнтацыя адбылася ў пятніцу 26 верасьня ў бібліятэцы Дому літаратара. Распачалася яна сьпевам сурмы Ўладзімера Пузыні. Ахвотных «паглядзець на Кіпеля» было так многа, што сядзячых месцаў у бібліятэцы на ўсіх не хапіла: многім давялося стаяць усе тры гадзіны. Зрэшты, наведнікі гэтым асабліва не перайmаліся: нехта прысеў на падлогу, частка, утварыўшы асобныя купкі, абмяркоўвала свае справы.**

Сам спадар Вітаўт нагадваў экзатычную драпежную птушку: арліны профіль, кароткі «вожык» валасоў... Гэткі амэрыканскі self-made-man, увасобленая мара савецкіх карыкатурыстаў. Распавядаў ён шмат і цікава. Ня дзіва: на зьбіраньне матэрыялаў для даведніка пайшло сорак гадоў яго жыцьця, у тым ліку дваццаць гадоў паездак. У кніжцы ўлічаныя ўсе беларускія эміграцкія выданьні ад XIX ст. Адных пэрыёдыкаў там згадваецца 422. Кніжна-часопісны збор сям'і Кіпеляў займаў 147 скрыняў. Цяпер ён перададзены Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. «Калі перадаеш кнігі проста так, дык бібліятэка мае права рабіць зь імі што захоча. А мы ўтварылі спэцыяльную фундацыю ў 25 тыс. даляраў на захаваньне нашага збору, каб паставіць свае ўмовы. Бібліятэка будзе клапаціцца пра выданьні, і ўвесь збор з часам мае быць сьфільмаваны і копіі перададзеныя некалькім бібліятэкам у Беларусі», — паведаміў В. Кіпель.

Складальнікі па магчымасьці расшыфравалі псэўданімы, пад якімі друкаваліся эмігранты. («Нашай мэтай было захаваць інтэлектуальны высілак людзей», — патлумачыў сп.Вітаўт.)

На вечарыне выступалі людзі спрэс славутыя: прафэсар Адам Мальдзіс, былы міністар замежных справаў Пятро Краўчанка, архівіст Віталь Скалабан ды інш. У зале былі заўважаныя таксама Радзім Гарэцкі; Вінцук Вячорка, Анатоль Сідарэвіч, Яўген Лецка. Уладзімер Арлоў падараваў В.Кіпелю кнігу «Краіна Беларусь»: адзін асобнік ён ужо дасылаў у Нью-Ёрк, але той «прысабечылі» Кіпелевы ўнукі. Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру Лявон Баршчэўскі падараваў сваю кнігу «Літаратура ад старажытнасьці да пачатку эпохі рамантызму»: «Арлоў падарыў кнігу, дзе распавядаецца пра беларусаў ад аўстралапітэкаў да сёньняшніх дзён, а я дару кнігу пра беларускую літаратуру ад эгіпэцкіх тэкстаў».

Ад падарункаў перайшлі да прызнаньняў. Народны паэт Ніл Гілевіч прызнаўся, што ў 1966 г. падпісаў зварот «Ня вам беларусамі звацца», скіраваны да супрацоўнікаў Беларускай службы радыё «Свабода». Згадцы пра гэты зварот і эміграцкаму водгуку на яго знайшлося месца на старонках кіпелеўскага даведніка. «Прыйшоў да мяне камісарысты на той час Бураўкін і сказаў: «Падпішы, таварыш Гілевіч». Тыя беларусы з радыё «Свабода» за некалькі дзён да таго мае вершы пахвалілі. За што мне было сварыцца на іх? Яны ж добрую справу зрабілі для беларускай паэзіі... Але не падпісаць я ня мог, пагатоў пад зваротам стаяў ужо подпіс Васіля Быкава», — распавёў Ніл Сымонавіч.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў казаў пра дасягненьні сваёй арганізацыі ва ўздыме прэстыжу мовы: «Якраз сёньня да нас прыйшлі прадстаўнікі фірмы, якая выпускае жуйкі «Дырол», каб мы дапамаглі ім перакласьці па-беларуску надпісы на абгортках». У актыў ТБМ Трусаў занёс і яшчэ два адметныя факты. Першы: уся рэклама «Галіны Блянкі» йдзе толькі па-беларуску нават у расейскамоўных газэтах. Прычына: ТБМ — адзіная ў сьвеце арганізацыя, якая падзякавала «Галіне Блянцы» за беларускамоўныя надпісы. Другі: з прыездам пасла Крола пасольства ЗША ў Беларусі перайшло на вядзеньне дакумэнтацыі ў дзьвюхмоўным рэжыме — на беларускай і ангельскай мовах. Раней шырока выкарыстоўвалі і расейскую.

Пры канцы вечарыны старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч уручыў В.Кіпелю тры сяброўскія білеты СБП: адзін — самому сп.Вітаўту, другі — жончын (пасьмяротна), трэці — для перадачы доктару Яну Запрудніку.

А напярэдадні прэзэнтацыі, падчас сустрэчы зь сябрамі ПЭН-цэнтру, В.Кіпель паведаміў, што Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку падрыхтаваў да друку ангельска-беларускі слоўнік на 70 тыс. словаў. Прадстаўнікі беларускага пасольства ў ЗША асьцярожна «намацваюць»: ці пагодзяцца супрацоўнікі БІНіМу надрукаваць слоўнік у дзяржаўным выдавецтве ў Беларусі?

**Адам Воршыч** /*Наша Ніва*/

**************************************************************

# Пятро Краўчанка мае кампрамат на Лукашэнку?

**У Варшаве знаходзіцца былы міністар замежных справаў РБ Пятро Краўчанка, пра якога мала чуваць апошнім часам, пасьля скандальнавядомай гісторыі зь ягонай заявай не вяртацца ў Беларусь зь Японіі. Карыстаючыся нагодай, мы вырашылі зьвэрыфікаваць некаторыя факты й даведацца, чым цяпер займаецца былы амбасадар.**

**Пятро Краўчанка:** – Яшчэ ў студзені мінулага году ў Токіё я абвесьціў, што буду вяртацца ў вялікую палітыку. Было заяўлена, што калі ўсё будзе складвацца добра: стан здароўя, палітычныя ўмовы, то я буду рыхтавацца да таго, каб балятавацца ў 2006 г. у якасьці кандыдата ў прэзыдэнты. 11 верасьня, выступаючы па маскоўскай праграме ТВЦ, а гэта дастаткова знакаміты канал, я пацьвердзіў гэтыя амбіцыі, і сёньня таксама фактычна заяўляю, што пачаў палітычную барацьбу за тое, каб перамяніць уладу на Беларусі.

Я жыву ў Маскве, таму што ў Беларусі мне жыць небясьпечна, ёсьць пагроза для жыцьця, і шукаю палітычную ды эканамічную падтрымку сярод уплывовых колаў Расеі дзеля таго, каб рыхтавацца да выбараў 2006 г.

**З вашага прыезду ў Польшчу вынікае, што вы шукаеце падтрымкі ня толькі ў Расеі. Якая мэта вашага прыезду ў Варшаву?**

– Мэта перш за ўсё інфармацыйная. Я хацеў бы выкласьці некаторыя падыходы да нашых двухбаковых стасункаў, для палітычнай і эканамічнай будучыні. Таму што я лічу, што разам з Расіяй мы будзем інтэгравацца ў Эўрапейскую Супольнасьць і пройдзем той жа шлях, што Польшча. А з другога боку, я спрабую, каб усходні ўхіл у нейкім сэнсе балянсаваўся заходнім. Я адзіны беларускі палітык, які мае добрыя стасункі як на ўсходзе, так і на захадзе, і мне вельмі важна, каб Варшава ведала пра мае намаганьні, мае амбіцыі, і пра тое, што я буду балятавацца ў прэзыдэнты.

**Яшчэ нядаўна вы былі амбасадарам БР у Японіі, і заявілі, што ня маеце намеру вяртацца ў Беларусь. Была таксама інфармацыя, што ў вас ёсьць кампрамат на Аляксандра Лукашэнку. Гэта праўда?**

– Я ніколі не заяўляў, што я ніколі не зьбіраюся вяртаца на Беларусь. Пра гэта казалі некаторыя расійскія сродкі інфармацыі з падачы афіцыйнага Менска. Пра гэта, дарэчы, шэсьць разоў заяўляла інфармацыйная праграма НТВ. Яшчэ будучы ў Токіё, я зрабіў заяву па праграме РТР, што гэта палітычная правакацыя, за якой я на той час яшчэ ня ведаў хто стаіць. Я заявіў таксама, што я ніколі ня быў здраднікам, і, зразумела, я ніколі ня краў ніякіх грошай, сакрэтных дакумэнтаў і пячатку. Гэта была палітычная правакацыя, якую арганізаваў Аляксандар Лукашэнка. 7 красавіка, выступаючы перад ідэалягічным актывам Беларусі, ён прызнаў гэта. „Беларуская Газета" ў красавіку надрукавала поўную стэнаграму гэтага паседжаньня, дзе даслоўна гэта гучала так: „Я даў даручэньне спэцслужбам выкрасьці й прывезьці Краўчанку на Беларусь". Але перад гэтым у Токіё былі накіраваныя работнікі спэцслужбаў Беларусі, якія зрабілі цэлы шэраг правакацыяў: заблякавалі рахунак пасольства, адключылі мабільны тэлефон, спрабавалі ўварвацца ў маю кватэру, і іншыя непрыемныя справы, якія мелі на мэце псыхалягічна й фізычна падавіць мяне як асобу. Ім трэба было выцiснуць мяне за мяжу, скампраметаваць, абвінаваціць у крымінальных парушэньнях, і тады, як казалі ў сталінскія часы, „няма чалавека – няма праблемы". Каб я аказаўся, скажам, як Пазьняк, за мяжой, я быў бы сёньня палітычным трупам. Так што гэта была палітычная правакацыя зь ведама Лукашэнкі. Ён даваў палітычныя даручэньні. Я ў гэтым перакананы.

**Дык чаму ён вас баіцца?**

– Таму што, у адрозьненне ад іншых палітыкаў, на мяне няма кампрамату. Я не займаўся бізнэсам, нейкімі фінансавымі афэрамі. Я маю пэўны вопыт палітычнай дзейнасьці, і, як міністар замежных справаў, і як старшыня Парлямэнцкай Камісіі па Міжнародных Справах, як чалавек, які пражыў 5 гадоў за мяжой і добра ведае заходнія рэаліі ды разумее, што многае на Беларусі трэба зьмяняць. Я думаю, што ён проста баіцца палітычнага канкурэнта.

**А ў вас ёсьць кампрамат на Аляксандра Лукашэнку?**

– Ведаеце, палітычны шлях да прэзыдэнцкіх выбараў настолькі цяжкі й няпросты, што я разьлічваю свае сілы на дыстанцыю. І, калі спатрэбіцца, то, зразумела, пэўныя факты, пэўная інфармацыя будзе дадзеная грамадзкасьці, аднак думаю, што да гэтага час пакуль што не прысьпеў.

**Дзякуй за размову.**

Гутарыў Аляксандар Навіцкі

**************************************************************

# З КЛОПАТАМ ПРА БУДУЧЫНЮ

**Конкурс.** 7 жніўня вярнулася з адпачынку ў Чэхіі другая група беларускіх дзетак – пераможцаў у літаратурна-мастацкім конкурсе "Беларусь. Гістарычныя вандроўкі". Праведзенне конкурсаў сярод школьнікаў Беларусі на патрыятычную тэматыку кожны год ладзіць Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

У якасці ўзнагароды пераможцы атрымліваюць каштоўны падарунак – аздараўленчы адпачынак за мяжой і кнігу са сваімі творамі. Фундатарам гэтых праектаў, закліканых умацоўваць нацыянальную самасвядомасць маладога пакалення Беларусі, ужо колькі год запар выступае беларуская мецэнатка з Кліўленда сп. Ірэна Каляда-Смірнова.

З кожным годам у конкурсах "Бацькаўшчыны" удзельнічае ўсё больш і больш дзетак з розных куткоў Беларусі. Для іх перамога ў конкурсе з'яўляецца сапраўднай падзеяй у жыцці: гэта і грамадскае прызнанне таленту, і заахвочаванне на далейшую працу, і цікавае, поўнае прыгод падарожжа ў Еўропу. Не менш значнай падзеяй для дзяцей з'яўляецца сустрэча з іншымі творчымі юнакамі і дзяўчатамі Беларусі.

У 2003 г. грамадскасць Беларусі святкуе 450-годдзе Рэфармацыі ў нашай краіне, таму тэма дзіцячага конкурсу была прысвечана гісторыі Беларусі. Усю вясну "Бацькаўшчына" атрымлівала дзіцячыя працы – малюнкі, сачыненні, вершы і паэмы. Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Сцяпан Батура, Тадэвуш Касцюшка, курганы, замкі, касцёлы, рэкі, азёры, камяні, Пагоня, гербы гарадоў і шляхецкіх родаў, мілагучнасць мовы і харастВО прыроды і многае-многае іншае!

Экспертнай камісіі давялося шмат папрацаваць, каб абраць лепшых. І абраныя працы ўжо трэці год пераконваюць, што на Беларусі нараджаецца новая патрыятычная інтэлектуальна-мастацкая эліта – вольная ад піянерска-камсамольскай шэрасці.

**Адпачынак.** Вельмі адказнай справай з'явілася распрацоўка культурнай праграмы адпачынка. На кожны дзень былі складзены падрабязныя планы імпрэз, прысвечаных дзеячам і падзеям нашай гісторыі. У такіх гульнях, як "Усяслаў Чарадзей", "Грунвальдская бітва" дзеці мусілі дэманстраваць не толькі свае здольнасці да спорту, але і веданне гісторыі Беларусі.

У гэтым годзе месцам, дзе адпачывалі маленькія таленты з Беларусі, была абрана Паўночная Маравія (Чэхія). Штодзень ладзіліся розныя мерапрыемствы, арганізоўваліся экскурсіі і пешыя вандроўкі. Дзеткі мелі магчымасць праявіць усе свае здольнасці: літаратурныя – падчас правядзення вечарыны, прысвечанай 100-годдзю Наталлі Арсенневай, мастацкія – падчас конкурсу малюнкаў, музычныя – падчас развучвання і спеваў штовечар беларускіх песняў, спартовыя – падчас міжнародных (з нямецкай групай) спаборніцтваў па тэнісу, футболу і валейболу, а веданне гісторыі – падчас

 

гістарычнай вікторыны. У гонар нашых дзяцей гаспадар гатэлю арганізаваў нават салют. Дзеці шмат цікавага даведаліся пра Чэхію і яе гістарычных дзеячаў, пра легенды і паданні гэтай краіны, што дало ім магчымасць па-іншаму зірнуць на Беларусь, яе месца сярод іншых краін. І, канешне, на сябе – як на паўнавартасных прадстаўнікоў сваёй Радзімы, па якіх будуць меркаваць пра нашу краіну і яе жыхароў.

Пра ўражанні дзяцей сведчаць іх словы ў лістах удзячнасці і малюнкі.

**З дзіцячых допісаў.** *"Цяпер слова "Беларусь" значыць для мяне не толькі як дзяржава, а як краіна, у якой я жыву. Цяпер гэта слова гучыць моцна, з вялікіх літар – БЕЛАРУСЬ. Цяпер я стала грамадзянінам сваёй краіны, чалавекам, у якога ёсць пачуццё адказнасці за далейшы лёс Радзімы,"* – Марына Яўсейчык, 14 год, Светлагорскі раён.

*"Я заўважыў, што многія мае аднагодкі не могуць актыўна адпачываць і чакаюць, калі іх пачнуць забаўляць. А я лічу, што адпачынак павінен быць не на канапе, а ў падарожжах, у назнанні чагосьці новага і цікавага. Я раю аднагодкам вывучаць гісторыю свайго краю, культуру свайго народу, свае радаводы і... удзельнічайце ў конкурсах. Спрабуйце!"* – Улад Татарынцаў, 14 год, г. Цюмень, Расія.

**Кніга.** Калі дзеці былі ў Чэхіі, выйшаў з друку зборнік літаратурных прац пераможцаў конкурсу "Гістрычныя вандроўкі". Гэта ўжо трэці зборнік, які выходзіць, адпаведна, пасля трэцяга дзіцячага конкурсу. Такія зборнікі з году ў год становяцца сапраўднай культурнай падзеяй, бо ўтрымліваюць узнёслыя, высакародныя і, адначасова, радасна-аптымістычныя развагі нашых дзяцей пра Беларусь. А 17 верасня ў Літаратурным музеі М.Багдановіча ў Менску адкрылася выстава лепшых малюнкаў удзельнікаў конкурсу.

Управа ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра ўдзячная сп. Ірэне Каляда-Смірноў за адданы клопат пра духоўнае сталенне і здароўе беларускіх дзетак, а таксама ўсім удзельнікам конкурсу.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**********************************************

**Міжнародны дзіцячы літаратурна-мастацкі конкурс**

## "Я Беларус, і тым ганаруся!"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс сярод дзяцей беларускай дыяспары ўзростам 12-14 год. Конкурс будзе адбывацца па двух намінацыях: мастацкія працы (малюнкі) і літаратурныя творы.

Тэматыка твораў:

- што значыць для мяне быць Беларусам;
- асабістае ўяўленне і ўспрыманне роднай культуры;
- вытокі любові да Радзімы.

Усе працы павінны мець прозвішча і імя ўладальніка, узрост, зваротны адрас, па магчымасці, кантактныя тэлефоны.

Прымаюцца малюнкі (вертыкальныя ці гарызантальныя памерам А3 (420х295) і А2 (420х590), а таксама літаратурныя творы (верш, паэма, апавяданне, сачыненне і інш.).

Працы на конкурс прымаюцца да 15 лістапада.

Адрас для дасылкі:

**МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**
**вул. Рэвалюцыйная, 15**
**Мінск, 220030**

Пераможцы конкурсу атрымаюць каштоўныя падарункі.

Кантактны тэлефон у Мінску: (017) 289-31-94.

**********************************************

# Ім песня дапамагае заставацца беларусамі

У жыцці беларускай дыяспары Літвы адбылася значная падзея — фестываль беларускай песні «Панявежыс-2003».

З усіх рэгіёнаў краіны на фестываль з'ехаліся творчыя калектывы беларускай песні і музыкі.

Асабліва ўразіла выступленне народнага ансамбля народнай песні «Бераставіцкія музыкі» (Гродзенская вобласць), які дастойна прадставіў беларускую культуру і выклікаў шквал апладысментаў у прысутных.

Кульмінацыйным момантам свята стала выкананне ўсімі творчымі калектывамі песні «Беларусь мая», якую шматлікая аўдыторыя гледачоў актыўна падтрымлівала і слухала стоячы.

Прысутнічалі кіраўнікі горада Панявежыса, прадстаўнікі беларускай і літоўскай грамадскасці, культурных і дзелавых колаў.

4 кастрычніка адбыліся канцэрты беларускага ансамбля «Бераставіцкія музыкі» ў Палацы культуры г. Шаўляя, а 6 кастрычніка — у сярэдняй школе імя Ф. Скарыны г. Вільнюса.

**********************************************

# Адам Міцкевіч на мове сваёй Радзімы

**Ніна КУДРЭЙКА** /З-да/

Да 205-й гадавіны з дня нараджэння генія сусветнай літаратуры Адама Міцкевіча ў залатой серыі «Беларускі кнігазбор» выйшла найбольш поўнае выданне яго твораў на беларускай мове. Гэта — «Выбраныя творы» Адама Міцкевіча.

У аднатомніку чытач знойдзе ўсе асноўныя творы нашага знакамітага класіка, ураджэнца Наваградскага раёна (раней — павета). Перш за ўсё — гэта яго лірыка, вершы, у якіх адлюстравалася біяграфія самога паэта, гісторыя яго кахання. У кнізе змешчаны ўвесь цыкл вядомых рамантычных балад Адама Міцкевіча, заснаваных на беларускіх народных паданнях («Свіцязь», «Свіцязянка», «Лілеі», «Кахаю я», «Курганок Марылі», «Рыбка» і інш.), а таксама цыклы «Санеты» і «Крымскія санеты», якія зрабілі імя Адама Міцкевіча шырока вядомым у Расіі.

Асаблівае месца ў творчасці Адама Міцкевіча займаюць яго паэтычныя аповесці «Гражына» і «Конрад Валенрод», у якіх раскрываецца цікавыя старонкі гісторыі беларускай сярэднявечнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага і за якія паэта называлі «літоўскім Вальтэрам Скотам». Аповесці прадстаўлены ў кнізе з грунтоўнымі каментарыямі, дарэчы, як і ўсе іншыя творы.

З цікавасцю пазнаёміцца чытач і з самымі буйнымі творамі Адама Міцкевіча — драматычнай паэмай «Дзяды» і паэтычнай эпапеяй «Пан Тадэвуш». У цэнтры першага з іх — рамантычнае каханне паэта да беларускай шляхцянкі Марылі Верашчакі, а таксама трагічная гісторыя віленскіх маладзёжных аб'яднанняў — Таварыства філаматаў і Таварыства філарэтаў, за ўдзел у якіх Адам Міцкевіч з сябрамі быў сасланы «ў глыб Расіі», адкуль эмігрыраваў на Захад. Раздзелы («песні») «Пана Тадэвуша», напісанага ў эміграцыі, у Парыжы, пераносяць чытача ў Беларусь часоў вайны 1812 года з Напалеонам, расказваюць пра ўдзел у ёй беларускай шляхты. Але ў аснове твора — зноў-такі каханне, каханне маладога пана Тадэвуша і шляхцянкі Зосі, за якімі праглядваюцца сам аўтар і яго каханая Марыля…

Аднатомнік выбраных твораў Адама Міцкевіча аздабляе блок ілюстрацый, якія расказваюць пра жыццё і творчасць паэта і яго асяроддзе.

Кніга «Выбраныя творы» Адама Міцкевіча — цудоўны падарунак школьнікам, студэнтам, выкладчыкам літаратуры, усім, хто хоча ведаць гісторыю сваёй культуры, хто любіць і шануе мастацкае слова. На жаль, тыраж кнігі невялікі, і не ўсе змогуць яе набыць.

**********************************************

# "Наша мова для нас святая"

З прыемнасцю прачытала артыкул Яніны Мельнікавай "Мова, якую мы выбіраем" і вырашыла падзяліцца сваімі меркаваннямі па ўзнятай праблеме. Журналістка піша: "Ёсць клінічныя выпадкі тыпу "ненавіджу гэту мову", і ніякіх аргументаў, – проста нешта з псіхікай". Выказванні аб роднай мове такога кшталту невыпадковыя сярод беларусаў, а хутчэй тыповыя, заканамерныя. І ў гэтым не віна беларускага насельніцтва, а бяда. У былым Савецкім Саюзе, піша прафесар Іван Лепешаў, з 1926 па 1979 год перасталі існаваць 93 этнасы (народы). Гэта значыць, што зніклі і іх мовы. Беларуская не знікла, бо належыць да 500 моў свету, даследаваных і вывучаных. Яна знікла, перш за ўсё, у "вярхах" беларускага народа. А так як кіраўнікі дзяржавы маюць доступ амаль што да ўсіх крыніц інфармацыі, яны сцвярджаюць: "Беларуская мова памірае". А калі чалавеку пастаянна паўтараць, ён паверыць у гэта.

Беларуская ж мова жыве ў "нізах", становячыся, тым самым, пакажчыкам дэмакратызму. І нездарма ўсё лепшае, жывое і праўдзівае ў наш час звязана з беларускаю моваю. Гэта разумее перш за ўсё інтэлігенцыя, якая і "будзіць" нацыянальную свядомасць беларусаў. Аднак і ёй (інтэлігенцыі) няпроста гэта рабіць, бо на дзяржаўнай службе зараз запатрабаваныя людзі – прыхільнікі "великого и могучего русского языка".

Яніна Мельнікава піша: "… мова памірае, навошта яе ратаваць?"… "Навошта ратаваць?" – пытанне глыбока маральнае, непрактычнае, нематэрыяльнае". Яшчэ Купала пісаў пра "сон" нацыі, які разбудзілі "Бяда.Гора". Я ведаю шмат настаўнікаў беларускай мовы, пісьменнікаў, якія ўсё яшчэ знаходзяцца ў нацыянальным "сне". Яны думаюць, што нехта прынясе ім сапраўдную дзяржаўнасць роднай мовы. Не, шаноўныя, дзеля жыцця роднай мовы трэба заняць актыўную пазіцыю, змяніць сваю грамадзянскую пасіўнасць на актыўнасць. І ў гэтым мне бачыцца высокая маральнасць нацыянальна свядомага беларуса, бо яшчэ Някрасаў пісаў: "Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан".

Журналістка параўноўвае стаўленне да роднай мовы беларусаў і ўкраінцаў. Лічу, што значную ролю ў захаванні ўкраінскай культуры адыграла нацыянальная рэлігія – уніяцтва (якое, дарэчы, пашыралася на Украіну з Беларусі). І зараз украінскія мацяркі лічаць, што дзіця будзе шчаслівым, калі атрымае імя Язафат, у гонар беларуса Язафата Кунцэвіча, архібіскупа Полацкага, прыняўшага пакутніцкую смерць у 1623 годзе. Аднак трэба сказаць, што беларусы – людзі інтэрнацыянальныя. Нездарма А. Р. Лукашэнка ў наш час імкнецца рэанімаваць былы Савецкі Саюз праз беларускую нацыю... Гэта ў крыві нашай нацыі — прымірыць, паяднаць. У "Малітве аб супакоі" сказана: "Міласэрнасць і праўда сустрэнуцца, справядлівасць і супакой абдымуцца". Міласэрнасць, супакой могуць быць дасягнуты толькі адным шляхам – праз праўду. Інакш, як сказана ў Бібліі, мы будзем будаваць храм сваёй душы на пяску. Вось чаму душа беларуса патрабуе праўды і любові: каб выжыць, выстаяць. Несці гэту праўду і павінна нацыянальна свядомая інтэлігенцыя. Аднак гэта вельмі складаная задача. Бо столькі бруду і крыві выліта на беларускую мову, што гэтай праўды могуць баяцца, яна многім непрыемная. Ды і што такое праўда ў філасофскім разуменні ў наш час, калі насельніцтва краіны за 70 год савецкай улады навучылі красці дзяржаўнае? Відаць, выратаванне дае рэлігія, якая сцвярджае думку, што праўда ёсць любоў да чалавека. Лічу, што і да яго мовы. Нам трэба вучыцца перастройваць сябе, вучыцца па-сапраўднаму любіць родную мову. Калі мы навучымся гэтаму, зменіцца ўвесь свет, бо зменімся мы самі. "Наша мова для нас святая, бо яна ад Бога даная," – пісаў Ф. Багушэвіч. І любіць яе трэба моцна і верна, бо іншага шляху няма.

Таццяна Трафімчык, старшыня
Слонімскай суполкі ТБМ

**********************************************

# Янка Купала пра дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі

"Змагайся і стань вольным, Беларускі народ!"

"Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь дзяржавы, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. -- усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак. Так ці іначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.

Чаму гэта так?.. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу нашых суседак ...Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул, калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.

І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месцы (гарады), а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра. К таму ж не лік мы народ вялікі.

Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

**Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць".**

("Незалежнасць", 1919 год)

"Не падаючы духам, мы павінны моцна трымаць сцяг змагання за вызваленне, за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны".

("Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год", 1920 год)

"Толькі ён сам (беларускі народ) уладар сваёй зямлі, гаспадар свайго краю, вызваліць сябе з свае нядолі. Толькі незалежная Беларусь збавіць нас раз назаўсёды ад чужой апекі і перакідання з аднаго боку на другі. Толькі беларуская дзяржава запэўніць нам спакой, парадак і лепшую долю".

("Мінск, 25-га кастрычніка", 1919 год)

---

…Трэба ратаваць наш народ ад больш страшнага, больш небяспечнага Віруса, які практычна паклаў ужо ўвесь наш беларускі народ у труну. І назва гэтаму вірусу - расійскі шавінізм, карані сталінізму, манкуртства, у выніку чаго наша краіна практычна ўжо страціла сваю дзяржаўнасць, апошняй прыступкай будзе расійскі рубель. У нашага народа ўжо адабралі мову, адабралі веру, адабралі нацыянальныя святыні…

# Так гаварыў адважны Васіль Быкаў:

…- На працягу стагоддзяў наш народ моўчкі цярпеў прыгнёт. Ліў сваю кроў, ахвяраваў мільёнамі жыццяў і - маўчаў. Маўчаў, бо ягоныя гісторыкі пазбавілі яго праўдзівай гісторыяграфіі, яго філосафы ўнушалі яму фальшывую ідэю аб мудрай правільнасці ягонага бязмежнага цярпення. Ягоныя рыцары прыгожага пісьменства спаборнічалі між сабой аб тым, хто найлепш апяе тое, што варта было выбуху гневу і абурэння. Ягоныя палітыкі і дзяржаўныя дзеячы былі пазбаўленыя ўласнай палітыкі, магчымасці дзейнічаць на карысць народа, а шмат хто з іх сам стаў ахвярай тэрору, уласнай слепаты і памылковых поглядаў.

Але мы болей не хочам жыць, каб не памятаць як аб нашым гонары, так і аб нашых ахвярах, нашых пакутніках. Урэшце прыйшоў час сказаць людзям праўду і зрабіць з яе пэўныя высновы. Найперш праўду трэба сказаць пра мільёны безымянных людзей Беларусі, рабочых, калгаснікаў, інтэлігентаў з народа, беларусаў, рускіх, палякаў, яўрэяў, людзей іншых нацыянальнасцяў, панішчаных у гады сталіншчыны без віны, без права, без следу ў народнай памяці. Сімвалам тых, панішчаных, сёння сталі ўжо славутыя Курапаты. Але Курапаты толькі адна кропля ў моры людской крыві.

Мы павінны таксама назваць імёны катаў нашых ахвяр. Хто былі гэтыя нелюдзі? Як даўно вядома, кат і ахвяра інфернальным чынам звязаныя між сабой, і чалавецтва павінна ведаць і памятаць абодвух. Гэта патрэбна ў імя справядлівасці, у імя дэмакратыі, у імя нашай будучыні. У тым наш святы абавязак перад гісторыяй, маральны абавязак перад наступнымі пакаленнямі, каб ім не давялося дакараць нас за тое, што мы мелі магчымасці і ўпусцілі яе. Мабыць, ніхто з нашых папярэднікаў не меў такой магчымасці, якую лёс ці гісторыя далі нам, і было б найвялікшай гістарычнай несправядлівасцю не выкарыстаць яе...

Мы павінны скласці велічны мартыралог нашых страт і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым камянём у падмурку нацыянальнай свядомасці, стане важным элементам гістарычнай памяці і гарантам. Гарантам будучыні народа, які праз генацыд, кроў і знявагу з упартасцю асуджанага рвецца да сонца, дабра і справядлівасці…

Выпіска з "Н. Волі"

****************************************************************

**Валянцін Акудовіч** /Arche/

# Чаму Васілю Быкаву не далі Нобелеўскай прэміі?

Дзіўная рэч, у калізіі "Быкаў—Нобель", якая разгортвалася цягам колькіх там гадоў, я ні разу не чуў пытання: "А з чаго гэта Васілю Быкаву мусяць даць Нобелеўскую прэмію?" Здаецца, не толькі ў адэптаў пісьменніка, але і ў яго них антаганістаў ніколі не было асаблівага сумневу, што ён варты такога *статусу* (менавіта так, бо Нобелеўская прэмія ўжо даўно не ўзнагарода, а вяршыннае месца ў іерархіі сучасных элітаў). Таму кожны год, пасля чарговага ўручэння "Нобеля" ня-Быкаву, усчыналіся дыскусіі: маўляў, з якіх такіх інтрыгаў нашага чалавека зноў "пракінулі"? Бо нават калі не звяртаць увагі на а priori зададзеную сакральнасць "феномену Быкава", то для ўганаравання хапала і проста фармальных падставаў: агульны наклад кніжак перасягнуў тры мільёны (а яшчэ да выхаду кніжак усе апавяданні і аповесці не ў адзін мільён былі паасобку надрукаваныя ў газетах ды часопісах), ягоная проза перакладалася на паўсотню моваў свету, а ў колькіх краінах друкавалася — дык і ўвогуле як падлічыць? Не забудземся і на тое, што гэта не займальная белетрыстыка, а, так бы мовіць, "высокая літаратура", да таго ж псіхалагічна "цяжкая" ў чытве, і таму кожны экземпляр тут мусіць быць падвышаны на парадак адносна камерцыйных чытанак.

Версіяў тых прычынаў, з якіх Нобелеўскі камітэт (з яго шматлікімі экспертамі) упарта не зважаў на Быкава, было болей чым даволі. Тут і "камуністычнае" мінулае пісьменніка, і ягоны "нацыяналізм", і слабое "лобі", і малая знанасць у свеце беларускай літаратуры, як і самой Беларусі... Але ўсе пералічаныя (і ў мностве не пералічаныя) версіі — гэта ўсяго толькі вольная гульня інтэрпрэтацыяў на полі праблемы, параметраў якой ніхто не ведае (натуральна, акрамя тых, хто ведае). Вось чаму апошнім часам кожны новы "лаўрэат" для літаратурнай грамадскасці гэтаксама нечаканы (і непрадказальны), як адкрыццё Амерыкі (выключэннем — у сэнсе "чаканасці" — быў хіба толькі Гюнтэр Грас).

У праблеме Нобелеўскай прэміі старонняму чалавеку зразумела пакуль адно, а менавіта — што цяпер узнагарода залежыць не столькі ад творчасці як эстэтычнай дзейнасці таго ці іншага літаратара, колькі ад шматлікіх ускосных прычынаў, часам зусім і не звязаных з творцам і ягоным тварывам. І гэта цалкам слушна. За стагоддзе свайго існавання прэмія Нобеля набрыняла такім значэннем і ўвабралася ў такі статус, што было б бязглуздым марнатраўствам аддаваць увесь назапашаны капітал аднаму асобнаму чалавеку (з чалавека хопіць і грашовых адсоткаў гэтага капіталу). Адсюль толькі фармальна "Нобелем" узнагароджваюць некага персанальна, а насамрэч гэта прэмія кантыненту, рэгіёну, краіне, чорным, жоўтым, мусульманам, гэбраям, дысідэнтам, сексуальным мяншыням... (Як на мой прагноз, дык яе вось-вось мусяць атрымаць феміністкі — і, можа, іх заперсаналізуе наша Святлана Алексіевіч?!)

З гэтага вынікае, што праблему "Быкаў—Нобель" будзе лагічна перафармуляваць на праблему "Беларусь—Нобель" і, адпаведна, задаццa пытаннем, чаму Беларусі не далі Нобелеўскай прэміі? А як толькі мы гэтак запытаемся, то атрымаем два варыянты адказу. Першы: не далі таму, што і не мелі намеру даваць. Вунь колькі ў чарзе стаіць, дзе ж на ўсіх "нобеляў" набярэшся?

Другі: не далі таму, што *некаму* гэтага вельмі моцна не хацелася.

Абвінавачвайце мяне як і ў чым заўгодна: у непавазе да "прэзумпцыі невінаватасці", логіка-спекулятыўным валюнтарызме, дэманізацыі антыбеларускіх сілаў (і г.д. і да т.п.), але я схіляюся да другога варыянту.

Бачыце, даць Нобелеўскую прэмію Васілю Быкаву — азначала легалізаваць Беларусь у якасці эстэтычнага, інтэлектуальнага і (то ж Быкаў) этычнага суб'екта сусветнай супольнасці. Гэта па-першае. А па-другое — істотна ўтрываліць Беларусь у яе геапалітычнай рэальнасці. Скасаваць краіну, якая мае свайго Нобелеўскага лаўрэата, значна складаней, чым скасаваць краіну, якая яго не мае.

Так знадворку, але не меней і ўнутры. Найперш, ідэя нацыянальнай, незалежнай і еўрапейскай Беларусі атрымлівала б на сваю карысць магутны аргумент. Затым, беларуская мова ўпляталася б у залаты сурплёт вялікіх літаратурных моваў свету і з гэтым давялося б лічыцца і людзям паспалітым, і прэзідэнтам. Далей, этычны імператыў, як формула адбывання быцця, перастаў бы быць ідэальнай фігурай і шмат для каго пакладся б у под яго рэальнага шляху...

Я не ведаю, хто непасрэдна скраў "Нобеля" ў Васіля Быкава (Беларусі), але гэтую страту я цалкам усур'ёз гатовы параўнаць са стратай Вітаўтам (ВКЛ) каралеўскай кароны. "Быў прызначаны нават дзень каранацыі, але палякі спрытна перахапілі карону па дарозе" (Янка Запруднік).

Якім быў бы наш гістарычны лёс, каб Вітаўт стаўся каралём, а ВКЛ — каралеўствам, не скажа ніхто, хаця зразумела — ён быў бы іншым. Прыкладна тое ж і з некаранаваннем Васіля Быкава. Усё будзе трохі інакш (а можа, зусім і не трохі) ад таго, як магло б быць.

Таму цяпер, калі нядобрае здарылася, няма сэнсу гадаць, хто на гэты раз "перахапіў карону па дарозе". Больш за тое, асабіста мне не хацелася б, каб нам яе *неўзабаве* "вярнулі". Без Васіля Быкава "нобелеўская карона" на Беларусі будзе вялікай няпраўдай. Прынамсі, яшчэ ладны кавалак часу... Той, хто плячо ў пляча з тысячамі суайчыннікаў праводзіў Яго ў апошні шлях, верагодна, пагодзіцца са мной.

# ПАТРАБУЕМ СПЫНІЦЬ ПРАВАКАЦЫІ СУПРАЦЬ МІЖЭТНІЧНАГА МІРУ Ў БЕЛАРУСІ

Партыя БНФ з найвялікшай трывогай зазначае, як варожыя Беларусі і яе дзяржаўнай незалежнасці сілы настойліва спрабуюць распаліць міжэтнічную варажнечу ў нашай краіне, дзе ніколі не было міжнацыянальных закалотаў. Вось факты.

1. Сцэнар шырокамаштабных вайсковых вучэньняў "Чыстае неба", якія на некалькі тыдняў паралізавалі жыцьцё некалькіх рэгіёнаў краіны, зусім не зьвязаны з рэальнымі пагрозамі бясьпецы й незалежнасьці нашай дзяржавы. У аснове сцэнару -- цалкам выдуманы, немагчымы ў Беларусі канфлікт з удзелам нейкай кампактнай этнічнай меншыні, якую правакуе сілай аддзяліцца ад "Чырвонай Рэспублікі" суседняя дзяржава -- "Сіняя Рэспубліка". Пры гэтым апошняя выкарыстоўвае здраду ўнутранай апазыцыі "Чырвонай Рэспублікі". У вучэньнях бяруць удзел ВПС, войскі процiпаветранай абароны, сухаземныя войскі, сілы МУС, МНС, КДБ й памежнікі. Змабілізаваныя нават рэзэрвісты. Паколькі ў вучэньнях на беларускай зямлі бяруць удзел расейскія войскі (самалёты ВПС і Кантэміраўская дывізія), значыць, пад умоўным праціўнікам маецца на ўвазе Польшча, Літва, Латвія альбо Украіна, а пад "сэпаратыстамі" -- адпаведная этнічная меншыня з тых, што спрадвеку мірна жывуць у Беларусі.

Гэты сцэнар ёсьць ня чым іншым, як сьвядомым распальваньнем варожасьці супраць названых краінаў і прадстаўнікоў адпаведных этнасаў у Беларусі. Такія "вучэньні" дэманструюць агрэсіўны антыэўрапеізм цяперашняга кіраўніцтва краіны і яго дрымучую этнічную нецярпімасьць…

2. Цэлы шэраг акцыяў уладаў сьведчыць пра дзяржаўны антысэмітызм у Беларусі. Гэта і разбурэньне помніку гісторыі й архітэктуры -- будынку сынагогі на вул. Дзімітрава ў Менску, і адмова ўшанаваць памяць самаспаленых габрэяў у Мазыры, і зьнявага габрэйскіх могілак у Горадні. Партыя БНФ выказвае абурэньне з прычыны ліквідацыі Міжнароднага гуманітарнага інстытуту пры Белдзяржунівэрсытэце -- адзінай у краіне вышэйшай навучальнай установы, дзе вывучаюцца гісторыя, культура й мовы габрэйскага народу. Гэта чарговая зьнявага ўладаў у адрас беларускіх габрэяў -- этнічнай супольнасьці, якая стагодзьдзямі жыве ў Беларусі й унесла неацэнны ўклад у разьвіцьцё нашае краіны.

3. Мы адзначаем усё большы ціск уладаў у адрас грамадзкіх арганізацыяў польскае меншыні. Так, Саюз палякаў у Беларусі атрымаў ад Міністэрства юстыцыі за ўяўныя альбо неістотныя парушэньні заканадаўства папярэджаньне, якое пагражае гэтай арганізацыі ліквідацыяй.

4. З падачы "Белорусской газеты" -- выданьня, якое належыць да аднаго з расейскіх мэдыя-холдынгаў, -- у Беларусі справакаваная дыскусія на цалкам надуманую тэму пра "ўціск супраць расейскае меншыні". Натуральна, падобнага ўціску, а тым больш бытавога антырасейскага этнічнага нацыяналізму, у Беларусі няма. Задача правакатараў -- падштурхнуць беларускіх грамадзкіх дзеячоў, палітыкаў, журналістаў да ўзаемных этнічных абразаў і такім чынам стварыць у Расеі зь беларусаў "вобраз ворага", а ў Беларусі на аснове расейскай этнічнай меншыні скалаціць прарасейскую апазыцыю для магчымай замены Лукашэнкі. Заклікаем усіх сьвядомых людзей, незалежна ад нацыянальнасьці, зразумець гэта, асудзіць і не падтрымліваць правакацыйную "палеміку".

5. Нарэшце, самым абсурдным з гледзішча любой эўрапейскай краіны ёсьць сыстэматычны перасьлед уладамі ўсяго сапраўды беларускага: мовы (апошні абуральны прыклад -- перавод тэлевізійных навінаў на расейскую мову); гістарычнае памяці (замена ў ВНУ аб'ектыўных гістарычных працаў кнігай Трашчонка); адукацыі (вайна супраць Беларускага гуманітарнага ліцэю). Штодзённае санкцыянаванае дзяржавaю прыніжэньне беларускага народу ня можа не выклікаць абурэньня людзей. Галоўнае, каб гэтае абурэньне было скіраванае не супраць прадстаўнікоў іншых этнасаў, а супраць палітычнага рэжыму, які нясе адказнасьць за разбурэньне самых падвалінаў нацыянальнага існаваньня беларускага народу.

Названыя факты распальваньня міжэтнічнай варожасьці патрабуюць адназначнай ацэнкі, у тым ліку й з боку праваахоўных органаў. Неістотна, адкуль зыходзяць правакацыі -- ці то ад менскага рэжыму, зацікаўленага ў нацкоўваньні людзкіх масаў на "чужакоў" і ў кансэрвацыі іх савецкага мэнталітэту, ці то ад расейскіх імпэрскіх "тэхнолягаў", якія намагаюцца не дэмакратызаваць Беларусь, а яшчэ болей дэстабілізаваць яе. Правакацыі нясуць пагрозу нацыянальнаму міру ў Беларусі, абсалютная бальшыня насельніцтва якой, незалежна ад этнічнага паходжаньня, хоча бачыць сваю краіну незалежнай і эўрапейскай. Дык не дапусьцім нацыянальнае варажнечы!

*************************************************************

## Моўная экспансія Расеі

Паводле агенцтва РИА НОВОСТИ , Расея прылоўжыць намаганьні, каб на цэлай тэрыторыі былога Савецкага Саюзу расейская мова атрымала статус афіцыйнай.

Як заявіла віцэ-міністр замежных справаў Расеі Эленаора Мітрафанава, расейская дыпламатычная служба мае намер актыўна праводзіць адпаведные дзеяньні ў краінах, дзе пражывае многа расейцаў. Пры гэтым Мітрафанава сказала, што маюцца на ўвазе ня толькі краіны Садружнасьці Незалежных Дзяржаў, але ўсе краіны, якія ў мінулым уваходзілі ў склад Савецкага Саюзу, у тым ліку й дзяржавы Балтыі.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Так яно і ёсьць…

…Перспектывы, што хтосці перахопіць уладу ў Лукашэнкі, вельмі невялікія. Лукашэнка трымае сітуацыю пад кантролем. Цяперашняя апазіцыя - слабая і некансалідаваная, парламент - кішэнны. Органы юстыцыі знаходзяцца на ўтрыманні прэзідэнта. Ніякай сілы не мае Канстытуцыйны суд. Палітычныя партыі карлікавыя і няўплывовыя. Тым часам беларускі кіраўнік у якасці падтрымкі мае моцную адміністрацыю. Маніпулюючы ёю з дапамогай грошай і пагроз, ён даволі лёгка ўтрымлівае ўладу…

*************************************************************

# Ці ў радасць такая старасць?

МікolaКАНАНОВІЧ

Сёння ў Беларусі жыве 2 мільёны чалавек, якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту. Для краіны, насельніцтва якой менш за 10 мільёнаў, гэта даволі вялікая лічба. Сацыёлагі часта параўноўваюць, колькі пенсіянераў, дзяцей і іншых катэгорый непрацаздольных прыходзіцца на аднаго працаўніка.

Па іх падліках атрымліваецца прыкладна па тры ўтрыманцы на аднаго работніка. Адсюль, маўляў, у работніка і зарплата ніжэйшая, бо ён корміць яшчэ траіх.

Але такі стан рэчаў зусім не азначае, што беларускія пенсіянеры жывуць са сваёй пенсіі (асноўны фонд якой фарміруецца з адлічэнняў працаўнікоў) і нічога не робяць. Уласны агарод, дача, прысядзібная гаспадарка — традыцыйныя аб'екты прыкладання сіл пенсіянераў. З адной пенсіі жывуць нямногія, як правіла, зусім нямоглыя людзі. Палітыка і эканоміка дзяржавы ў сучаснай Беларусі такія, што калі хочаш есці, то і на пенсіі будзеш працаваць з апошніх намаганняў. Разам з тым, нацыя сапраўды старэе. Прычыну таго, што колькасць пажылых людзей павялічваецца і скарачаецца насельніцтва краіны, нехта бачыць у нізкім узроўні жыцця, адсутнасці ў моладзі веры ў заўтрашні дзень і да т.п. Аднак чаму ж тады старэе і ўся астатняя Еўропа з яе традыцыйнай дэмакратыяй?

Адназначнага адказу на гэтае пытанне вучоныя мужы не даюць. А вось розніца паміж беларускім і, скажам, нямецкім ці французскім пенсіянерам у тым, што старыя немцы і французы не полюць градаў, не гадуюць свіней і не прадаюць малако ад уласнай кароўкі, каб зарабіць дадатковыя грошы. Яны ўжо забяспечылі сабе старасць і адпачываюць. Нашым пенсіянерам адпачываць няма за што і няма калі.

**********************************************

# Заходняя Беларусь: жыццё без прыхарошвання

**Мікалай НЕСЦЯРОВІЧ, кандыдат гістарычных навук**

Як вядома, у міжваенны перыяд 1921—1939 гадоў гісторыя паставіла з беларускім народам своеасаблівы эксперымент. Воляй ваеннага лёсу заходнія і ўсходнія беларусы, якія да 1914 г. жылі ў адной дзяржаве, апынуліся па розныя бакі мяжы, якая падзяліла не проста Польшчу і Савецкую Рэспубліку (з 30 снежня 1922 г. СССР), а два варожыя грамадствы.

Народная памяць аб жыцці пры Польшчы вельмі шматпланавая і неадназначная. «Калі мы жылі пры Польшчы, — гаворыцца ў адным з тыповых успамінаў, узятым з дакументаў архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, — то ў мяне з 12—13 гадоў было імкненне хутчэй стаць дарослым, паехаць у Латвію на заработкі да заможных сялян, апрануць сябе і паставіць на ногі нашу сям'ю, якая існавала ў галечы». Жыхарка вёскі Сакуны Ляхавіцкага раёна В. Сакун не без настальгіі ўспамінала: «Пры Польшчы ў каго было многа зямлі, той панеў, а бедным было горш. Я то добра апраналася, лакіроўкі насіла, панчохі шаўковыя. Справіла сабе маларасійскае адзенне». Жыхар Кобрына В. Прусак, успамінаючы жыццё ў гады польскай акупацыі, адзначае, што сяляне, якія не ленаваліся і мелі жаданне працаваць, зараблялі дастаткова, каб забяспечыць сябе і свае сем'і. У магазінах быў нядрэнны выбар спажывецкіх тавараў польскай вытворчасці — былі б толькі грошы.

Апошнія два ўспаміны сугучныя з уяўленнямі аб жыцці заходнебеларускага насельніцтва многіх жыхароў Усходняй Беларусі, якія ў адрозненне ад жыхароў Заходняй Беларусі ў 1930-я гады адчулі радыкальную ломку сталінскай «рэвалюцыі зверху», жылі ў атмасферы таталітарызму і рэвалюцыйнага неўрозу. У такіх умовах нават акупіраваная палякамі Заходняя Беларусь здавалася ім кутком спакою, стабільнасці і працвітання.

Рэальнасць, пры больш уважлівым разглядзе, была далёкай ад ідэалістычнага замілавання. Адроджаная ў лістападзе 1918 г. польская дзяржава была адсталай, са значнымі перажыткамі феадалізму, з перавагай сельскага насельніцтва, сярэдняга ўзроўню капіталістычнага развіцця краінай. Эканоміка другой Рэчы Паспалітай развівалася крайне маруднымі тэмпамі, застойна-дэпрэсіўна. На змену перыядам некаторага ўздыму прыходзілі перыяды спаду, дэпрэсіі, крызісу. За ўвесь міжваенны перыяд агульны аб'ём прамысловай вытворчасці Польшчы так і не дасягнуў узроўню даваеннага 1913 г. і значна адставаў ад большасці заходнееўрапейскіх краін.

Эканоміка беларускіх ваяводстваў Польшчы (Віленскага, Навагрудскага, Палескага і Беластоцкага) знаходзілася на яшчэ больш нізкім узроўні развіцця, чым польская эканоміка ў цэлым, паколькі польскія ўлады па сутнасці справы не былі зацікаўлены ў развіцці эканомікі Заходняй Беларусі. Вядома, у некаторай меры яны вымушаны былі развіваць тут вытворчасць, паколькі толькі дзеючая, а не «мёртвая» заходнебеларуская эканоміка магла садзейнічаць агульнаэканамічнаму росту Другой Рэчы Паспалітай. Але эканоміцы Заходняй Беларусі адводзілася ў гэтым росце далёка не першае месца. Яна павінна была выконваць перш за ўсё ролю аграрна-сыравіннага прыдатка больш развітай эканомікі этнічнай Польшчы.

Такі стан эканомікі Заходняй Беларусі вызначыў адпаведны ўзровень матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва гэтага рэгіёна. На працягу амаль дваццацігадовага перыяду знаходжання ў складзе Польшчы ў Заходняй Беларусі няўхільна ішоў працэс збяднення большай часткі сельскага насельніцтва, якое складала ў 1939 г. 88,2 працэнта ўсіх жыхароў края. Бядняцкія слаі насельніцтва заходнебеларускай вёскі ўключалі ў сябе беззямельных сельскагаспадарчых рабочых і сялян, якія валодалі да 7 га зямлі. Гэтай колькасці зямлі яўна не хапала для ўтрымання сям'і, таму што пражытачны аграрны мінімум на адну душу складаў у Заходняй Беларусі 8,74 га. Сямейны бюджэт сялян-беднякоў быў заўсёды дэфіцытным.

Калі ў 1921 г. беднякі складалі прыкладна 62 працэнты заходнебеларускага сялянства, серадня́кі — 30 працэнтаў, багачы — 8 працэнтаў, то да сярэдзіны 30-х гг. — адпаведна 78—80 працэнтаў, 15—17 працэнтаў і 5 працэнтаў. Удзельная вага памешчыцкіх гаспадарак у розны час складала не больш 1 працэнта ўсіх гаспадарак.

Бытавыя ўмовы большасці заходнебеларускіх сялян нярэдка напаміналі перыяд феадалізму. Не маючы дастатковых сродкаў для ўладкавання быту, свае патрэбнасці яны задавальнялі ў асноўным за кошт хатняй рамеснай і ткацкай вытворчасці. Большую частку года сяляне-беднякі хадзілі босымі, а зімой — у лапцях. Жылі ў цесных і брудных хатах, часта разам з жывёлай. Медыцынскімі паслугамі карысталіся вельмі рэдка, паколькі, па-першае, медыцынская дапамога каштавала немалых грошай. У 1935 г. за адзін дзень знаходжання ў павятовай бальніцы трэба было плаціць 5 злотых, за аперацыю хвораму — 25 злотых. Па-другое, само медыцынскае абслугоўванне было арганізавана вельмі дрэнна. Медыцынскія ўстановы знаходзіліся выключна ў гарадах і мястэчках. Колькасць бальнічных ложкаў за гады акупацыі значна скарацілася і іх не хапала. Медыцынскае абслугоўванне было даступным у асноўным зажытачным слаям вёскі.

Гарадское насельніцтва Заходняй Беларусі па свайму матэрыяльнаму становішчу таксама было далёка не аднародным. Пры гэтым у горадзе, як і ў вёсцы, маёмаснае расслаенне ўзмацнялася. У 1935 г. звыш 90 працэнтаў рабочых зараблялі менш за ўстаноўлены ўрадам пражытачны мінімум, які складаў для рабочай сям'і каля 60 злотых у тыдзень.

Гэта сярэднія для ўсёй Польшчы лічбы. Становішча рабочых Заходняй Беларусі было яшчэ горшым, паколькі заработная плата іх была значна меншай, чым у сярэднім у Польшчы і тым больш у яе эканамічна больш развітых этнічных раёнах. Напрыклад, у жніўні 1937 г. сярэдні тыднёвы заработак рабочага Варшаўскага ваяводства складаў 32,8 злотага, Палескага — 17,8, Навагрудскага — 13,3 злотага. Розніца ў заработнай плаце даходзіла да 64 працэнтаў.

Хоць фармальна ў Польшчы быў устаноўлены 8-гадзінны рабочы дзень, на справе ён, як правіла, не захоўваўся і працягваўся 10—12, а іншы раз і больш гадзін. Звышурочная работа ў большасці выпадкаў не аплачвалася. Прыняты ў сакавіку 1933 г. закон аб рабочым часе даваў права прадпрымальнікам павялічваць рабочы дзень, скарачаць водпускі з 8 да 4 дзён. 8-гадзінны рабочы дзень і платныя водпускі, такім чынам, фактычна ліквідаваліся.

З першых дзён акупацыі польскія ўлады пачалі закрываць беларускія школы. Калі ў 1918—1919 гг. у Заходняй Беларусі налічвалася каля 400 школ, то ў 1925 г. засталіся толькі 4 беларускія школы. Усе астатнія былі пераўтвораны ў польскія. У 1938/39 навучальным годзе ў заходнебеларускім рэгіёне не засталося ніводнай беларускай школы. Пры гэтым польскіх школ было недастаткова, каб забяспечыць вучобу ўсіх дзяцей. Атрымаць вышэйшую адукацыю з-за высокай платы за яе большасці насельніцтва было практычна немагчыма. У выніку такой палітыкі польскага ўрада ў Заходняй Беларусі 43 працэнты яе насельніцтва ва ўзросце звыш 10 гадоў у 1931 г. было непісьменным, а ў Палескім ваяводстве — нават 50 працэнтаў. Беларуская інтэлігенцыя была вельмі малалікай: калі меркаваць па польскіх крыніцах, то сярэднюю і вышэйшую адукацыю мела адпаведна 0,27 і 0,17 працэнта заходнебеларускага насельніцтва.

Праяўленнем дыскрымінацыі беларусаў з'яўлялася і забарона карыстацца беларускай мовай у дзяржаўных установах. Акрамя таго, беларусаў не бралі на дзяржаўную службу. Закрываліся нешматлікія беларускія клубы, бібліятэкі, выдавецтвы. Калі ў 1928 г. на беларускай мове легальна выдавалася 29 газет і часопісаў, то ў 1939 г. — 4.

Акрамя нацыянальнага прыгнёту беларусы адчувалі на сабе палітычнае бяспраўе. Хоць Польшча лічылася парламенцкай буржуазна-дэмакратычнай рэспублікай, абвешчаныя Канстытуцыяй 1921 г. свабоды веравызнання, слова, друку, сходаў, арганізацый і іншыя пастаянна парушаліся, асабліва на «крэсах». Рабочыя, якія арганізоўвалі стачкі, часта праследаваліся як «бунтаўшчыкі» і «змоўшчыкі». Сяляне, якія дабіліся надзялення землёй, падвяргаліся рэпрэсіям. Асабліва жорстка праследаваліся камуністы.

Беларусы фактычна былі адхілены ад удзелу ў вырашэнні надзённых пытанняў гаспадарчага, грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Выбарчая сістэма была пабудавана так, што ў вышэйшы орган улады ў Польшчы — двухпалатны парламент праходзіла вельмі нязначная колькасць прадстаўнікоў беларускага народа, і то пераважна ад заможных слаёў, якія падтрымлівалі паланізатарскую палітыку польскай дзяржавы. У час парламенцкіх выбараў 1922 г. у сейм былі выбраны 11, а ў сенат — 3 беларусы з 444 дэпутатаў і 111 сенатараў. У 1928 г. у сейм трапілі 10 беларускіх дэпутатаў і 2 сенатары. Толькі частка іх прадстаўляла радыкальныя партыі і арганізацыі беларускага народа.

Палітыка прававой дыскрымінацыі нацыянальных меншасцяў атрымала сваё лагічнае завяршэнне ў афіцыйнай заяве міністра замежных спраў Ю. Бека на пасяджэнні Лігі Нацый у верасні 1934 г., што Польшча адмаўляецца ад дадзеных раней гарантый аб ахове правоў нацыянальных меншасцяў. Уступіўшыя ў дзеянне ў 1935 г. новыя Канстытуцыя і выбарчы закон Польшчы рэзка абмежавалі выбарчыя і іншыя правы і свабоды, што па сутнасці справы азначала заканадаўчае ўвядзенне аўтарытарнага праўлення. На выбарах 1935 і 1938 гг. у парламент ужо не было выбрана ніводнага беларуса, ні аднаго прадстаўніка левых сіл. Канстытуцыя 1935 г. санкцыяніравала прымяненне розных сродкаў прымусу аж да расправы без суда з усімі незадаволенымі існуючым рэжымам. У выніку ўзмацнення палітычнай рэакцыі тысячы радыкальна настроеных беларусаў былі кінуты ў турмы, выселены з родных месцаў. У ліпені 1939 г. у адным толькі канцэнтрацыйным лагеры ў Бярозе Картузскай на Палессі, які быў створаны для ўтрымання палітычных зняволеных, знаходзіўся 473 чалавекі.

Пастаяннае жорсткае абмежаванне і падаўленне патрэбнасцяў нацыянальна-этнічнага развіцця, амаль поўнае палітычнае бяспраўе рабілі жыццё большай часткі беларускага народа яшчэ больш цяжкім.

**********************************************

# Леаніда Барткевіча абвінавацілі ў плагіяце

Прэзентацыя кнігі Леаніда Барткевіча "Песняры і Вольга" не адбылася. Сам Барткевіч ніяк не тлумачыць прычынаў адтэрміноўкі імпрэзы, а яго́ныя былыя паплечнікі лічаць, што ён папросту не рызыкнуў распавядаць, адкуль браў інфармацыю для свайго біяграфічнага твора. Шэраг журналістаў і выдаўцоў сцвярджаюць, што новая кніга - на 70% плагіят.

Пісьменніцкі дэбют Леаніда Барткевіча азмрочаны заявамі цэлага шэрагу журналістаў, якія сцвярджаюць, што першая частка кнігі амаль цалкам пабудавана на іх ранейшых інтэрв'ю і аўтарскіх успамінах.

Ужо вядома, што абвінавачанні ў плагіяце выказалі маскоўскі выдавец Анатоль Вайцэнфельд, былы "пясняр" Уладзімір Мікалаеў, беларускі журналіст Барыс Крэпак, нават цэлы інтэрнэт-сайт pesnyary.com. Сам Барткевіч з Мінску з'ехаў. Яго прадзюсер Юрый Цыбін паведаміў: "Хоць скандалу пазбегнуць ужо наўрад ці ўдасца, але прэзентацыю кнігі ў любым разе вырашана прымеркаваць да канцэрта, які Барткевіч збіраецца даць у Мінску ў лістападзе".

Супрацоўнік газеты "Культура" Барыс КРЭПАК адзін з першых учыніў рэвізію кнігі Леаніда Барткевіча.

"Прэтэнзіі да яго вялікія, - кажа Крэпак, - ён узяў з маіх шматлікіх інтэрв'ю з Мулявіным цэлыя кавалкі, выдаючы іх за свае. Я ўжо не кажу, як ён успаміны "На паўшляху да эстрады" нябожчыка Валерыя Яшкіна выкарыстоўваў і мемуары яшчэ аднаго "песняра", Уладзіміра Мікалаева: часткі былі выкарыстаны цалкам, уключна з назвамі. Ды ўвогуле першая частка кнігі Барткевіча, прысвечаная "Песнярам", на 70% чысты плагіят. Не хачу нечага даказваць у судовым парадку, бо гэта толькі марнаванне часу. Сваё меркаванне пра ягоны амаральны ўчынак выкажу ў сваім артыкуле. Але справа ў тым, што нашае выданне рыхтуе кнігу пра Мулявіна, і матэрыялы, якія надрукаваны ў яго, мы гэтаксама збіраліся друкаваць. А цяпер мы самі апынаемся ў ролі плагіятараў. Таму паставіць кропкі над "і" трэба цяпер"...

**********************************************






*Сьв. Памяці*

## Паўла ГУЗ

15-8-1924 — 17-8-2003

У горадзе Мэльбурн, Аўстралія, памёр беларускі дзеяч Павел Гуз. У вялікім смутку пакінуў жонку Тосю і двух сыноў, Мішу і Колю ды двух унукаў. Павел нарадзіўся ў вёсцы Дуброва на Гомельшчыне. 10-ці гадовую школу закончыў у Рэчыцы.

У 2-ю Сусьветную вайну, Павел з братам Аляксандрам і маці, выехалі на захад у Нямеччыну.

Прыбыўшы ў Аўстралію ў 1949 годзе, адразу ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. Быў адным з першых пачынальнікаў і закладчыкаў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Мэльбурне на пачатку 1950 году.

Больш як 50 год працаваў у розных беларускіх арганізацыях у Мэльбурне, дзе да канца свайго жыцьця заставаўся старшынёю Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі. Доўгія гады быў сакратаром Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі і заставаўся на гэтым становішчы да канца жыцьця.

Паўлюк Гуз пісаў, чытаў, езьдзіў, хадзіў і будзіў беларусаў — старанна і рупліва выконваў свае абавязкі. Вёў паседжаньні, сходы і акадэміі, як верны сын свайго народу.

На разьвітаньне з нябожчыкам у царкву і на беларускія могілкі у "Фаўкнэр", прыйшло шмат людзей, хоць пагода ў гэты дзень была вельмі халодная. Прыйшлі каб аддаць чэсьць заслужанаму і дарагому сябру Паўлу ў апошні раз.

Пахавальны абрад адправіў настаяцель мясцовай БАПЦ а. А. Кулакоўскі. Труна пакойнага была пакрыта бел-чырвона-белым сьцягам а таксама кветкамі і вянкамі ў беларускіх калёрах. Над магілай прасьпявалі "Сьпі пад курганам герояў", як заслужанаму змагару і вернаму сыну сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі. Над магілай прамаўлялі Аўген Груша, старшыня Фэдэральнай Рады БАА, Янка Барысевіч, Алег Шнэк, кіраўнік БВФ і а. Аляксандар Грыцук.

Магілу пасыпалі зямлёй прывезенай з Беларусі.

Над магілай разьвітальнае слова сказаў Аўген Груша: Сёньня сябры твае і прыяцелі прыйшлі табе апошні салют на разьвітаньне, як змагару за волю Бацькаўшчыны, якую ты так моцна любіў. Дык няхай аўстралійская зямелька будзе табе пухам. Далёка ад роднага краю, хай сьніцца табе Беларусь. **Вечная Памяць!**

Аўген Груша,
Старшыня Фэдэральнай Рады БАА.




*Сьв. Памяці*

## Ірэна ПАНУЦЭВІЧ

1910 — 2003

У Чыкага, ЗША, на 94 годзе жыцьця адыйшла ў вечнасьць актыўная дзеячка ў беларускім культурным і грамадзкім жыцьці ведамая патрыётка Беларусі Ірэна Пануцэвіч /Будзко/.

Паховіны адбыліся на рыма-каталіцкіх могілках сьв. Вацюка ў ваколіцах Чыкага.

Вечная Памяць!

*************************************************************

*Сьв. Памяці*

## а. Васіль КЕНДЫШ

1908 — 2003

Адыйшоў на вечны супакой ведамы беларускі рэлігійны і грамадзкі дзеяч на эміграцыі, ЗША.

Абрад паховінаў адслужылі а. Якаў і а. Вячаслаў. Пахаваны на могільніку ў Спрынгфільд, штат Масачусэтс, ЗША.

Патрыёту і адданаму змагару за беларускую нацыянальна-вызваленчую справу —

Вечная памяць!

PS. In memory of Rev. Vasil Kendysh from Mrs. Eleonor Noryk — $50.oo

*************************************************************

*Сьв. Памяці*

## Браніслаў ДАНІЛОВІЧ

1908 — 2003

Адыйшоў у вечнасьць беларускі жаўнер, грамадзкі і культурны дзеяч на эміграцыі ў штаце Нью Джэрзі.

Абрад пахаваньня выканаў а. Вячаслаў, настаяцель царквы БАПЦ у Гайлянд Парку, ЗША.

Нябожчык пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку.

Сьв. памяці Браніслаў быў вялікім патрыётам Беларусі і служыў свайму народу верна і аддана.

Сьпі пад курганам герояў!

Вечная памяць!

*************************************************************

*Сьв. Памяці*

## Эмілія Шнэк

1933 —2003

Адыйшла ў вечнасьць на 70 годзе жыцьця. Эмілія /Стажынска/ нарадзілася ў Варшаве.

У пачатках беларускага жыцьця ў Аўстраліі Міля, будучы жонкай ведамага беларускага дзеяча Ўладзіміра Шнэка /Случанскага/, аддавала шмат часу і стараньняў нашай агульнай беларускай дзейнасьці. Прымала ўдзел у ва ўсіх падрыхтоўках нашых нацыянальных сьвяткаваньняў і зьяўлялася сяброўкай амаль усіх беларускіх арганізацыяў у Мэльбурне.

У смутку засталіся дзьве дачкі і двое ўнукаў.

Вечная памяць!

Алег Шнэк.

*************************************************************

## *Нам Пішуць...*

Адказ на артыкул зьмешчаны ў "Нашай Ніве" і "Беларускім Дайджэстце" пад загалоўкам *"Незайздросны лёс БЦР"*.

Паважаны сп. Сяргей Ёрш!

Вельмі прыемна было чытаць Ваш інфармацыйны артыкул ахопліваючы, хоць часткова, незайздросны лёс БЦР.

Сапраўды, гэта быў незайздросны час, калі БЦР прыступіла да сваёй палітычнай дзейнасьці, каб ратаваць шматпакутны беларускі народ ад чужацкага тэрору з усходу і з захаду падчас II-ой Сусьветнай вайны.

Але думаю, не памылюся, калі скажу, што БЦР-у і ейнаму Прэзыдэнту Радаславу Астроўскаму давялося, на эміграцыі, перанесьці больш зьнявагі, ад былых супрацоўнікаў, як ад Саветаў. Няхай Усемагутны Бог будзе ім судзьдзёй.

Пасьля сьмерці Прэз. Р. Астроўскага, сп. Нікандар Мядзейка, як заступнік, быў назначаны на становішча Прэз. БЦР, а сп. Міхась Зуй на заступніка. Я астаўся і надалей сакратаром Выканаўчага Воргану Беларускай Цэнтральнай Рады.

Беларускае палітычнае жыцьцё паступова стала слабець, бо дзейныя людзі пачалі старэць і адыходзіць ад палітычнага жыцьця. Па пэўным часе і здароўе Прэз. Мядзейкі пачало ісьці на ніз. Мы разам пачалі падшукоўваць намесьніка на Прэз. БЦР. Ужо тады я выказаў думку, каб спыніць існаваньне БЦР,. Хай астаецца ў гісторыі Беларусі слаўная дзейнасьць БЦР і ейнага першага Прэз. Р. Астроўскага.

Пасьля сьмерці Прэз. Н. Мядзейкі выбраны быў сп. Міхась Зуй на становішча Прэз. БЦР. Мне і надалей прышлося прадаўжаць абавязкі ВВБЦР. Адлегласьць паміж Аўстраліяй і Амэрыкай давалася ў знак, колькі-ж можна пісаць...

Неўзабаве я выказаў думку Прэз. М. Зую наступнага зьместу: Паколькі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, дык падобна экзыльнаму польскаму ўраду ў Лёндане, БЦР таксама павінна-б злажыць свае паўнамоцтвы, узложаныя на яе II-ім Усебеларускім Кангрэсам, нававыбранаму ўраду Беларусі.

Прыблізна, на пачатку жніўня /няма даты/ Прэз. Зуй мне піша: "У сувязі з палітычнымі зьменамі ў Беларусі, вольны сьвет прызнаў Беларусь сувэрэннай і незалежнай дзяржавай і адначасова навязаў дыпляматычную сувязь з яе існуючым Урадам. БЦР ня выказала сваіх адносін да цяперашняга Ўраду Беларусі. Прашу склікаць паседжаньне ВВБЦР адносна гэтае справы. Выказаную думку сяброў ВВБЦР да сучаснага Ўраду Беларусі, перашліце Прэзыдэнту БЦР да ведама".

8-8-1992 г. я выслаў адказ сяброў ВВБЦР: Яшчэ зарана прызнаваць урад Беларусі, як легітымны. Паводле прыватных вестак, усе яны /ўрадоўцы/ жывуць з дня на дзень, дзейнічаюць вельмі асьцярожна, каб не ўгнявіць старых заправілаў. Перадусім, трэба навучыць "палітыкаў" гутарыць па-беларуску і думаць пра Беларусь.

Прэз. М. Зуй і я былі рэалістамі, добра сабе ўяўлялі з кім нам асталося працаваць..., што гуляць у алавяныя "салдацікі".

1. "Гультайства, ці палітычнае рашэньне? /закід зроблены сп. Ёршам/.

Відаць сп. Ёрш пісаў гэтыя радкі ў вельмі дрэнным настроі? Гультаёў я бачыў толькі на Ўсходзе раней і цяпер. Трэба прыехаць сп. Ёршу сюды, у Саўт Рывэр і пабачыць, што гэты "гультай" тут зрабіў! Зласьлівая палеміка ўжо даўно адыграла сваё ў беларускіх выданьнях на эміграцыі.

Цікава, што нейкі сп Ёрш... сапраўдны ці псэўданімны, выступіў на арэну ў абароне БЦР? Я ахоўваў БЦР і II-гі Ўсебеларускі Кангрэс яшчэ з Менску.

2. Так, маё *палітычнае рашэньне* наступнае: Пакіньце гістарычную Беларускую Цэнтральную Раду ў спакоі! БЦР зрабіла ўсё магчымае ў той ваенны час. Я цешуся тым, што маладыя журналісты і гісторыкі вельмі дастойна і пачэсна апісваюць змаганьне беларускага народу за любімую Бацькаўшчыну падчас II-е Сусьветнае вайны...

Так, у сутнасьці, гэта астанецца гістарычны ўспамін — фінал, для нас — старыкоў, якія пры кожнай нагодзе... думаюць пра тыя змагарныя часы маладосьці...

П.С. Залучаю гістарычны здымак Прэзыдэнтаў БЦР і парафіянаў зроблены на беларускіх могілках у Саўт Рывэры пры памятніку Прэз. Радаслава Астроўскага ў 1982 годзе.



Стаяць: першы рад з лева направа:
Барыс Плескачэўскі, матушка Вера Коўш, матушка Валя Лапіцкая, Міхась Зуй, Нікандар Мядзейка, а. Сьвятаслаў Коўш і Эленор Занкавіч.
Другі рад:
Віталі Цярпіцкі, Аляксандар Банкет і Аўген Занкавіч.

*Віталі Цярпіцкі.*

## Увага! Увага!

Нядаўна выйшаў восеньскі № англа-моўнага часапісу Belarusian Review. Часапіс выходзіць ужо 15-ы год і ўвесь час набывае ўсё большы аўтарытэт у навуковых і дзяржаўных установах па ўсім сьвеце. Нашыя сталыя чытачы прапануюць Belarusian Review сваім англамоўным сваяком і знаёмым.

Цяпер ёсьць нагода зьвярнуцца на адрас часапісу, каб атрымаць дарма пробны № для сябе або для сваіх знаёмых.

Belarusian Review, P.O. Box 1347, Highland Park, NJ, 08904.

Калі хочаце падпісацца і такім чынам пашырыць уплыў часапісу ды веды пра Беларусь, — гадавая падпіска каштуе $45.oo US.

*************************************************************

## Паведамленьне

Падаецца да ведама, што з прычыны сьмерці старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія, спадара Паўла Гуза, на пашыраным паседжаньні Ўправы БЦК у В. 15. 10. 2003 аднагалосна выбраны новы склад Управы:

Старшыня — сп. Алег Шнэк, сакратар — сп. Аўген Груша, скарбнік — а. Аляксандар Грыцук.

Просім у далейшым зварочвацца па патрэбе да адпаведных асоб Управы.

Управа БЦК у Вікторыі.

+++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Курапаты

Грамадскасць патрабуе годна ўшанаваць памяць закатаваных продкаў

Прадстаўнікі шэрагу дэмакратычных грамадскіх і палітычных арганізацый з усіх рэгіёнаў Беларусі выступілі з адкрытай заявай на адрас кіраўніка дзяржавы А.Лукашэнкі. Яны выказваюць глыбокую трывогу і звяртаюць увагу беларускай і міжнароднай супольнасцяў на сітуацыю, якая складваецца "вакол святога для кожнага свядомага грамадзяніна краіны месца -- Курапатаў".

Аўтары заявы падкрэсліваюць: Курапаты, дзе ў 1937--1941 гг. ішлі масавыя расстрэлы бязвінных ахвяр (што неаднаразова пацвярджалася рэспубліканскай пракуратурай), з'яўляюцца "сімвалам генацыду беларускага народа ў сталінскія часы". На сёння вядома яшчэ 50 месцаў масавых забойстваў мірных беларускіх грамадзян толькі на тэрыторыі былой БССР. А колькі нашых продкаў не вярнулася з ГУЛАГаў у Сібіры, Казахстане, на поўначы Расіі...

Падпісанты заявы лічаць: належнае ўшанаванне памяці закатаваных -- святы абавязак нашчадкаў перад продкамі з пункту гледжання народнай традыцыі, хрысціянскай і агульначалавечай маралі. Але да гэтай пары ўсе патрабаванні грамадскасці аб годнай мемарыялізацыі Курапат ужо на працягу 15 гадоў дзяржава пакідае без увагі.

У заяве адзначаецца: у той час, калі на будаўніцтва палацаў і стадыёнаў знаходзяцца сродкі, іх не хапае на мізэр у параўнанні з гэтым -- каб наладзіць ахову Курапацкага ўрочышча, зрабіць вакол яго агароджу. Прадстаўнікі грамадскасці патрабуюць ад улад, у адпаведнасці з афіцыйна прызнаным статусам Курапат як гісторыка-культурнай каштоўнасці краіны, узяць на сябе адказнасць за арганізацыю аховы і годнай мемарыялізацыі святыні.